ГОД XII САКАВІК - КРАСАВІК № 83
1964

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ДВУМЕСЯЧНЫ ЧАСАПІС БЕЛАРУСКАЕ РЭЛІГІЙНАЕ ДУМКІ

---

## ON GOD'S HIGHWAY

Year XII March-April № 83
1964

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE., LONDON, N. 12

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1964 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Англіі: Rev. J. Hermanovič, Marian House. Holden Ave. London, N. 12. Gt. Britain.

У Задзіночаных Штатах: Mr. Antony Bielenis. 2042 W. St. Paul Ave. Chicago, 47. Ill. U.S.A.; Mr. B. Danilovich. 303 Hovard Str. New Brunswick. New Jersey. U.S.A.; Mr. G. Gosciejew 3416 W. 49-th Str. Cleveland, 2. Ohio. U.S.A.; Mr. Ch. Najdziuk. 833½ N. Coronado Str. Los Angeles, Calif. U.S.A.

У Нямеччыне: Mgr. U. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

УВАГА: Да ўсіх беларускіх выдавецтваў зьвертаемся з просьбай прысылаць у нашу Рэдакцыю свае выданьні газэтаў, часапісаў, друкаў. Мы будзем сыстэматычна зьмяшчаць іхні агляд і даваць рэцэнзіі.

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

## ЗЬМЕСТ

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год. XII САКАВІК - КРАСАВІК 1964 № 83

# Дэкрэт II-га Ватыканскага Сабору
## аб сродках грамадзкай лучнасьці

*1. Уступ.*

Сярод дзіву годных тэхнічных вынаходзтваў, асабліва ў нашай сучаснасьці, якія людзкі геній пры Божай помачы змог выдабыць з сілаў створанае прыроды, Царква прыймае і сьлядзіць з асаблівай матчынай дбайлівасьцяй тыя, што бліжэй адносяцца да людзкога духа і што адчыняюць новыя і вельмі хуткія спосабы пашыраць весткі, ідэі і навучаньне. Сярод іх асаблівае месца займае друк, кіно, радыё, тэлевізія і ім падобныя, якія маюць за мэту дасягнуць ня толькі адзінкі і зрабіць на іх*уплыў, але праз сваю натуру імкнуцца падобна ўплываць на шматлікія асобы і на цэлае грамадзтва. Таму зусім слушна могуць называцца *сродкамі грамадзкай лучнасьці.*

*2. Чаму імі Сабор займаецца?*

Царква як маці разумее пазытыўную карысьць, якую гэтыя сродкі, добра ўжытыя, могуць прынесьці для людзкой сям'і. Яны запраўды выдатна памагаюць узьняць і ўзбагаціць дух, а таксама пашыраць і ўзмацняць валадарства Бога. Царква аднак прызнае таксама, што людзі могуць павярнуць іх на ўласную шкоду, ужываючы іх супраць плянаў Бога-Стваральніка. Дзеля гэтага матчына сэрца Царквы глыбока сумуе па стратах, якія вельмі часта дрэнны ўжытак гэтых сродкаў спрычыняе для чалавецтва.

Таму гэты сьвяты Сабор, астаючыся надалей такім дбайным, як гэта рабілі Найвышэйшыя Архірэі і ўсе Айцы ў галіне такога вялікага значэньня, ўважае за свой абавязак заняцца некаторымі пытаньнямі адносна сродкаў грамадзкай лучнасьці, спадзяючыся, што гэтае паясьненьне сваёй навукі і сваіх нормаў дапаможа ня толькі душам вернікаў, але спрычыніцца таксама да прагрэсу ўсяго чалавецтва.

### РАЗЬДЗЕЛ І

*3. Абавязкі Царквы.*

Каталіцкая Царква, устаноўленая Госпадам Хрыстом, каб прыдбаць збаўленьне ўсім людзям, кіруючыся патрэбай пашыраньня эванэліі, лічыць сваім абавязкам абвяшчаць збаўленьне таксама праз сродкі грамадзкай лучнасьці, і адначасова заклікае людзей да іх адпаведнага ўжытку. Таму Царква мае прыроднае права ўтрымоўваць і карыстацца вышэй названымі сродкамі, бо яны ёсьць канечныя або карысныя для хрысьціянскага ўзгадаваньня і для турботаў над збаўленьнем душ. Абавязкам добрых Пастыраў ёсьць таксама навучаць вернікаў і так імі кіраваць, каб яны праз прыгаданыя тут сродкі маглі асягнуць вечнае збаўленьне і дасканаласьць ня толькі для самых сябе, але й для ўсяго людзкога роду.

Асаблівым абавязкам людзей сьвецкіх ёсьць ажывіць гэтыя сродкі людзкімі і хрысьціянскімі вартасьцямі такім спосабам, каб яны адпавядалі спадзяваньням людзтва і плянам Божым.

*4. Маральнае права.*

Каб належна карыстацца гэтымі сродкамі, трэба ўсім тым, што за іх бяруцца, знаць маральную навуку і ў гэтай галіне поўнасьцяй яе прытрымлівацца.

Таму трэба мець на ўвазе зьмест, які па рознаму рознымі сродкамі перадаецца. Апрача таго, трэба зьвяртаць увагу на мэту, на абставіны, людзей, месца і на ўсе іншыя элемэнты, ў якіх адбываецца перадача, а якія могуць перайначыць або нават і зьмяніць маральную вартасьць. Сярод гэтых-жа элемэнтаў ёсьць сваеасаблівы спосаб перадачаў для кажнага з сродкаў — г. зн. яго сугэстыўная сіла, якая можа вельмі моцна ўплываць на людзей, перш за ўсё на слаба прыгатаваных, якія з цяжкасьцяй могуць яе спасьцерагчы, ёй супрацівіцца або нават, калі трэба, і адкінуць яе.

Асабліва ўсе тыя, што маюць дачыненьне да сродкаў грамадзкай лучнасьці, павінны мець згодна з праўдай выробленае сумленьне адносна іхнага ўжытку, а ў першую чаргу адносна некаторых праблемаў, якія сяньня вельмі аспрэчваюцца.

*5. Права быць належна паінфармаваным.*

Права быць належна паінфармаваным — значыць, мець змогу раоіць досьледы і здабываць весткі.

Няма ніякага сумлеву, што яно ёсьць ня толькі вельмі карысным, але яно зьяўляецца і нармальнай патрэбай, бяручы пад увагу сяньняшні прагрэс, дасягнуты ў людзкіх зносінах і сувязі, якія што раз цясьней лучаць людзей паміж сабой.

І запраўды, праз публічную і сваечасовую інфармацыю аб фактах і здарэньнях, кожны чалавек здабывае тыя поўныя і сталыя весткі, якія дазваляюць дзейна спрычыніцца да агульнага дабра і больш актыўна пашыраць дастатак і прагрэс усяго грамадзтва.

Таму ў людзкім грамадзтве існуе права да інфармацыі, згодна з умовамі, што забавязваюць адзінкі і згуртаваньне. Добрае, аднак, карыстаньне з гэтага права вымагае, каб перадачы ў сваім зьмесьце былі заўсёды згодныя з праўдай і каб пад поглядам справядлівасьці і любові былі бездакорнымі. Апарча таго, яны павінны пераказвацца адпаведна і прызваіта; трэба дакладна шанаваць маральныя прынцыпы, правы і годнасьць чалавека і пры здабываньні вестак і іхным пашыраньні, бо-ж ня кожнае пазнаваньне памагае, «а любоў будуе» (І Кар. 8, 1).

*6. Мастацтва і маральнасьць.*

Другое пытаньне датычыць адносінаў паміж правам — як гэта звычайна гаворыцца — мастацтва і маральным абавязкам. Бяручы пад увагу факт шматлікіх супярэчных паглядаў у гэтай матэрыі, якія нярэдка выводзяцца з хвальшывых цьверджаньняў у пытаньні этыкі і эстэтыкі, Сабор заяўляе, што ўсе людзі бяз ніякай розьніцы павінны трымацца пяршынства маральнага аб'ектыўнага парадку, бо ён адзіны пераўвышае ўсе людзкія парадкі, творачы з іх адну гарманійную цэласьць, якія-б яны шляхотныя і высокія ня былі, не дапускаючы вынятку і ў галіне мастацтва.

У запраўднасьці толькі маральны парадак у паўнаце свайго існаваньня павінен валадарыць чалавекам, творам Бога, абдараваным інтэлектам і пакліканым да надпрыроднай мэты. Толькі маральны парадак — цалкам і верна захаваны — дапамагае чалавеку дасягнуць разам із сваёй собскай дасканаласьцяй і дасканалае шчасьце.

*7. Адносіны да маральнага зла.*

Апошняе пытаньне датычыць расказаў, апісаньняў, прадстаўленьня маральнага зла. Яно бяз сумлеву можа таксама дапамагаць пазнаньню і глыбейшай аналізе людзкага духа, а таксама насьветліць і падвысіць праўду і дабро, карыстаючы з цэннасьці драматычных кантрастаў. Аднак, калі ня ёсьць пажаданым, каб шкоды для душаў перавысілі карысьці, дык пры гэтым трэба шчыра рэспэктаваць маральны закон, асабліва там, дзе рэчаіснасьць вымагае належнай пашаны, або ў выпадку, калі даецца пяршынство для брудных нахілаў чалавека, раненага першародным грэхам.

*8. Грамадзкая думка.*

Ня гледзячы на тое, што сяньня агульная апінія мае вялізарную вагу і сілу як у прыватным, так і ў грамадзкім жыцьці адзінак, незалежна ад таго, да якой клясы яны належаць і ў якіх умовах жывуць, неабходна, каб кожны сябра грамады таксама і ў гэтай галіне выканаў абавязкі справядлівасьці і любові. Таму няхай кожны спрычыніцца таксама праз ужыцьцё гэтых сродкаў да фармаваньня і ўздыму справядлівай агульнай апініі.

*9. Абавязкі ўспрыймаючых.*

Асаблівыя абавязкі датычаць усіх тых, хто ўспрыймае: чытачоў, гледачоў, слухачоў, якія праз свой асабісты і вольны выбар атрымоўваюць перадачы праз пасярэдніцтва гэтых інструмантаў.

У запраўднасьці добра зроблены выбар вымагае, каб даваць першае месца таму, што вызначаецца большай цнотай, культурай і мастацтвам, — і, наадварот, трэба ўнікаць усяго таго. што пагражае небясьпекаю ці спрычыняе шкоду або што можа пашкодзіць іншым праз дрэнны прыклад ці адабраць сьмеласьць для вартасных перадачаў, а павялічыць дрэнныя. Гэта апошняе мае месца, калі ўласнымі грашыма падтрымоўваюцца выдаўцы, выканаўцы і прадуцэнты, якія маніпулююць гэтымі сродкамі, кіруючыся пры гэтым вылучна эканамічнымі меркаваньнямі.

Таму тыя, што ўспрыймаюць, каб паступаць згодна з маральнасьцяй, няхай не занядбоўваюць свайго абавязку — перш добра паінфармавацца аб маральнай вартасьці таго, што маюць успрыняць. Аб гэтым будзе магчыма даведацца ад кампэтэнтных дзейнікаў і тагды трэба йсьці за голасам шчырага сумленьня. Каб аднак лягчэй можна было супрацівіцца вульгарным, а ў кожным выпадку даваць пяршынство добрым і адпаведным сугэстыям, няхай пастараюцца ўфармаваць сваё сумленьне і ім кіраваць, карыстаючы з належных сродкаў.

*10. Абавязкі моладзі і бацькоў.*

Асабліва наймалодшыя з паміж успрыймаючых няхай прывучаюцца памяркоўна і здысцып-



*II-я Сэсія Ватык. Сабору*

# Папа Павал VI

Зачынаючы II-ую Сэсію II-га Ватыканскага Сабору 4. XII. 1963 г., Папа ў сваёй прамове выказаў вялікую радасьць з любові паміж Айцамі Сабору — Біскупамі, з стараннай працы і малітвы, а таксама з прысутных абсэрватараў, якія ахвотна прынялі запросіны і бралі ўдзел ў паседжаньнях, ды з прысутных людзей сьвецкіх, як прадстаўнікоў шматлікіх мільёнаў вернікаў.

Праца Сабору была натужнай, але панавала на ім поўная свабода слова. Гэтым спосабам людзі розных характараў і адменных поглядаў, пры ласцы Божай, працавалі з вялікай карысьцяй для супольнага дабра і хвалы Бога.

Літургія — вельмі важная справа Цэрквы — была перадыскутаваная і праца закончаная. Пастановы аб Літургіі Папа пацьвярджае. Да найважнейшых зьменаў належыць увядзеньне нацыянальных моваў у Літургіі і іншых царкоўных (касьцельных) абрадах і службах. Гэта датычыць толькі лацінскага абраду, але гэты абрад абыймае больш за паўмільярда людзей на сьвеце!

Да іншых справаў Сабору належыць дыскусія аб сродках грамадзкай лучнасьці (аб гэтым гаворыцца ў уступным артыкуле). Царква лучыць у сваёй працы жыцьцё вонкавае з унутра-

---

лінавана карыстацца гэтымі сродкамі: больш таго, няхай імкнуцца пранікнуць у сутнасьць таго, што бачаць, што чуюць, аб чым чытаюць і, дыскутуючы над гэтым з настаўнікамі і з асобамі кампэтэнтнымі, няхай навучацца правільна іх ацэньваць.

Із свайго боку, бацькі няхай памятуюць аб абавязку, які на іх цяжыць, каб супрацьрэлігійныя і немаральныя прадстаўленьні, друкі і да гэтага падобнае ня трапілі ў дом, а таксама, каб іхнія дзеці сьцерагліся іх і вонкі дому.

*11. Абавязкі аўтараў.*

Асаблівая маральная адказнасьць дзеля правільнага ўжытку сродкаў грамадзкай лучнасьці ляжыць на журналістах, пісьменьніках, акторах, рэжысэрах, прадуцэнтах, фінансістых, гандлярох і прадаўцох, а таксама на крытыках і на ўсіх тых, што маюць розныя заданьні і актыўна прыймаюць удзел у падрыхтоўцы і ў трансмісіі перадачаў. Запраўды ёсьць ясным, якія і як важныя абавязкі ляжаць на іх сяньня, бо-ж яны праз свае інфармацыі і сугэстыі могуць накіроўваць людзкія грамады на шлях правідловы або весьці іх да руіны.

Таму яны павінны рэгуляваць свае эканамічныя, палітычныя або мастацкія інтарэсы так, каб ня выступаць супраць агульнага дабра. Каб хутчэй дасягнуць такую мэту, выпадае, каб яны належалі да тых прафэсіянальных аб'еднаньняў, якія вымагаюць пашаны да сумленнай дзейнасьці і выконваньня прафэсыйных абавязкаў. У некаторых выпадках трэба было-б таксама ўзгодніць паводзіны з ганаровым кодэксам.

Варта таксама прыгадаць, што вялікая частка гледачоў і чытачоў складаецца з моладзі, якая адчувае патрэбу друкаў і прадстаўленьняў, якія могуць яе здорава разьвесяліць і накіраваць да вышэйшых ідэалаў. Трэба таксама пастарацца, каб перадачы рэлігійнага характару былі дарычаныя асобам годным і здольным і каб яны адбываліся з належнай павагай.

*12. Абавязкі цывільных уладаў.*

У гэтай галіне цывільныя ўлады маюць асаблівыя абавязкі, якія вынікаюць з тытуту апекі над агульным дабром, да чаго прызначаюцца і вышэй успомненыя сродкі.

У запраўднасьці да гэтай цывільнае ўлады ў межах яе кампэтэнцыі належыць:

а) абараняць і забясьпечваць праўдзівую і справядлівую вольнасьць інфармацыі, якая ёсьць неабходнай для прагрэсу сяньняшняга грамадзкага жыцьця, асабліва вольнасьць друку;

б) прыдаваць большае значэньне рэлігійным, культурным і артыстычным матар'ялам;

в) забясьпечыць успрыймаючым вольнасьць, да чаго яны маюць поўнае права.

Больш таго — цывільная ўлада мае права падтрымоўваць тыя ініцыятывы, што маюць асаблівую карысьць для моладзі, а якія ў іншым выпадку не маглі-б зьдзейсьніцца.

У канцы, гэта самая сьвецкая ўлада, якая зусім слушна дбае пра фізычнае здароўе грамадзян, мае абавязак справядліва і з цэлай пільнасьцяй забясьпечыць, праз абвешчаньне законаў і праз іхнае выконваньне, каб праз надужыцьцё гэтых сродкаў інфармацыі ня былі спрычыненыя вялікія шкоды для публічнай маральнасьці і для прагрэсу ўсяго грамадзтва. Такі нагляд у запраўднасьці ня ёсьць здушэньнем асабістай вольнасьці або вольнасьці зарганізаваных групаў, асабліва ў тых выпадках, калі няма дастатковых гварантыяў з боку прафэсіянальных інстытуцыяў, ад якіх гэтыя сродкі залежаць.

(Далей будзе)

З лацінскай мовы тлумачыў Бп. Ч. С.
Лёндан, 20. 1. 1964.



*Пасьля вякоў маўчаньня... спаткаліся*

*Ад імяні Съвятой Цэрквы, ад імяні Уладыкі Часлава, і ад сябе Рэдакцыя «Божым Шляхам» жадае усім Суродзічам на Беларусі і на выгнаньні Свабоды і Волі, здароўя, згоды і любові. —*

*ХРЫСТОС УВАСКРОС!*

ным, контэмпляцыю з дзейнасьцяй, малітву з апостальствам.

У канцы прамовы Папа абвесьціў сваю неспадзяваную пастанову — адбыць пілігрымку ў Палестыну ... Гэта ўзрушыла ўсіх Айцоў Сабору, бо ад часоў Сьв. Пятра аніводзін Папа не наведваў Сьвятой Зямлі. І Павал VI — першы ў гісторыі Папа — меў ехаць самалётам і пасьля 500 гадоў спаткацца з праваслаўнымі Патрыархамі...

Мэта пілігрымкі, як Папа яе выясьніў, была: а) Маліцца за пасьпяховае заканчэньне Сабору; б) Аддаць хвалу Хрысту Госпаду ў Ягоных Тайніцах Уцелаўленьня і Збаўленьня ў тых сьвятых мясцох, дзе гэта сталася; в) У духу малітвы і пакуты ахвяраваць Хрысту Ягоную Сьвятую Царкву; г) Прыклікаць да Царквы нашых адлучаных Братоў; д) Маліцца за мір, згоду і лучнасьць усяго чалавецтва.

Папа аддае сваю пакорную і пакутную пілігрымку пад апеку Найсьвяцейшай Дзевы Марыі, Сьв. Апосталаў Пятра і Паўла і Ўсіх Сьвятых.

Урачыстым Багаславенствам усім прысутным Папа закончыў II-ую Сэсію Сабору.

## ПІЛІГРЫМКА Ў СЬВЯТУЮ ЗЯМЛЮ

Ня будзем спыняцца над усімі этапамі падарожжа; гэта было шырока апісана, скамэнтавана і праілюстравана ў газэтах, у часапісах, у радыё, у тэлевізіі. Толькі ўспомнім, што Пілігрымка была кароткая, але поўная малітвы, пакуты, спатканьняў з народам арабскім і жыдоўскім (арабы ледзь Яго не заціснулі!), з духавенствам каталіцкім, праваслаўным, мусульманскім і жыдоўскім, а таксама з уладамі — зь ёрданскім каралём і з прэзыдэнтам Ізраэля.

Віталі Яго ўсюды як Папу, але Ён выступаў неафіцыяльна — як просты сьвятар, як пілігрым-пакутнік: станавіўся на калені, цалаваў зямлю, піў ваду зь Ёрдану і з Гэназарэцкага возера. Прастата Яго, роўная ласкавасьць да ўсіх веравызнаньняў і нацыяў, супакой у тумульце і сьціску раззброілі Ягоных найбольшых праціўнікаў. Не адпіхаў Ён прыкрых цікаўскіх, не ўнікаў фатографаў, не займаўся ніякай палітыкай — пражыў гэтыя пару дзён з Богам і з народам.

## ПАПА ПАВАЛ VI І ПАТРЫЯРХ АТЭНАГОРАС

Першае спатканьне паміж Папам Паўлам VI і Патрыярхам Атэнагорасам адбылося ў нядзелю 5-га студня 1964 году ў Апостальскай Дэлегатуры, куды прыбыў Патрыярх. Другое — калі Папа рэвізытаваў Патрыярха ў ягонай сялібе. Трэйцяе — на вуліцы Ерусалімы.

Папа — 66 гадоў і Патрыярх — 77 гадоў — спаткаліся! Вось што аб гэтым сказаў П. Атэнагорас: «Пасьля вякоў маўчаньня, пацалунак супакою (міру) прыблізіў хрысьціянскі Захад да хрысьціянскага Ўсходу. Пасьля доўгай ночы разлукі нашыя вочы змучыліся, ўглядаючыся ў цемру. Мы шукалі сябе ўзаемна, а вось разам мы знайшлі Госпада».

Папа сказаў: «Справы злучэньня нельга адкладываць. Мы просім нашых адлучаных братоў, каб кожны крок да згоды быў натхнёны любоўю Хрыста і Ягонай Цэрквы...»

Папа спаткаўся з праваслаўнымі Патрыярхамі Армэніі і Ерузалімы. У супольным камунікаце Папа і Патр. Атэнагорас пацьвердзілі вялікае значэньне спатканьня, дзякуючы Богу Айцу і Сыну і Духу Сьвятому, што прывёў іхныя крокі да Сьв. Зямлі. Гэта братэрскі акт любові Хрыстовай, а Хрыстос загадаў любіць сябе ўзаемна і даравацъ сабе правіны. Камунікат заклікае герархіі і вернікаў, каб узялі ўдзел у прыязьні і малітве за справу «адзінай Хрыстовай Цэрквы».

## ЗА МІР НА СЬВЕЦЕ

Пілігрымка была закончана заклікам да ўсіх народаў сьвету. Былі разасланыя тэлеграмы да ўсіх кіраўнікоў дзяржаваў, што Папа моліцца за мір, справядлівасьць і любоў на сьвеце. «Мы абвяшчаем сьвету, што адзінае нашае заданьне — даваць сьветчаньне веры. Мы ня просімо нічога больш як толькі вольнасьці веры. Жадаем працаваць для дабра сьвету і ягонага збаўленьня. Хрысьціянства ня чужое для сьвету: няхай ведае сьвет, што мы яго любім. Нашае прывітаньне і нашае багаславенства ня мае сяньня граніц. Шлём яго таксама тым, якія ёсьць ворагамі рэлігіі і яе прасьледуюць, выракаючыся Хрыста...»

Патрыярх Атэнагорас сказаў пры разьвітаньні: «ДА ПАБАЧАНЬНЯ!»

## ПЕРАДКАЛЯДНАЯ ПРАМОВА

У Вігілію Каляд Папа меў да ўсяго сьвету прамову аб вялікіх патрэбах чалавецтва. Увайшло ў звычай, што ў гэты дзень Папы зьвяртаюцца да ўсяго сьвету праз радыё, асабліва да кіраўнікоў дзяржаваў, — зьвяртаюцца як духоўныя Айцы і апякуны роду людзкога ў ягоных галоўных патрэбах душы і цела.

Папа Павал VI меў гэтую аказію першы раз. Спачатку Ён пажадаў ўсім людзям запраўднага шчасьця, якога сьвет даць ня можа, хоць мае масу спосабаў, каб здаволіць людзей. Папа гаварыў, што ёсьць досыць магчымасьцяў ўладзіць жыцьцё: зямля родзіць даволі хлеба, але больш палавіны людзей ідзе на супачынак галоднымі, ці недаеўшымі. У галечы і недастаку і нат' ад голаду гіне маса дзяцей. Тымчасам фальшывая навука высіляецца на тое, каб зьменшыць лік людзей, а не на тое, каб нармальна забясь-

печыць народ. Можна і трэба павялічыць ураджайнасьць глебы і можна і неабходна справядліва праводзіць размеркаваньне дабра і багацьця, а то ў адных краёх дабро марнуецца, а ў другіх пануе голад.

Далей Папа апэлюе памагаць новым краём у Азіі і Афрыцы, дзе дасюль панаваў «патэрналізм», г. зн. прымусовая зьверхнасьць, а цяпер хай запануе поўнае братэрства! Павал VI падкрэсьліў заслугі каталіцкіх місіяў, якія шмат прычыніліся да культуры краёў, дзе яны працавалі, апякуючыся сіротамі і хворымі. Ён просіць і дамагаецца для місіяў поўнай рэлігійнай свабоды.

У канцы Павал VI прамаўляе ў духу Энцыклікі Сьв. Памяці Папы Яна XXIII — аб лучнасьці людзей, народаў і дзяржаваў, аб «міры для ўсяго сьвету». Адзін ёсьць Айцец усіх людзей — Бог, а ўсе людзі — дзеці Божыя.

Павал VI абяцаў маліцца за мір, згоду і любоў на сьвеце.

*а. Я. Г.*

# Успаміны аб а. Андрэю Цікоце

(Працяг)

## I. ГРАМАДЗКАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ

1) Мусімо падкрэсьліць, што ў часе прабываньня а. Андрэя ў Друі ува ўсім грамадзкім жыцьці гораду і парахвіі адбівалася дзейнасьць яго асобы. Вельмі часта Цікота быў ініцыятарам усяго новага і важнага. Найбольш аднак ён адзначаўся падчас падзелу гаспадарак на хутары. Была тады праводжаная ў Польшчы агульная рэформа дробных гаспадарак. Горад Друя, які ляжаў у самым кліне паміж рэкамі Дзьвіной і Друйкай, а меў землі падзеленыя на дробныя палоскі, гвалтоўна дамагаўся рэформы і перадзелу. Аднак над Друяй цяжыла рука старой пані Мілашовай, якой горад плаціў падаткі (Мілашова нейкімі дарогамі была насьледніцай даўнейшых паноў Сапегаў). Дык вось гэтая пані злажыла пратэст супраць хутароў. Мяшчане зьвярнуліся да Цікоты. Ведама, а. Андрэй заразжа пасьпяшыў у Вільню ў ваяводзтва. Але там яму адмовілі, казалі: «Мілашова ёсьць гаспадыня гораду і вы нічога не парадзіце!»

Цікота кінуўся ў Варшаву да міністра земляробства. Ды і там адказалі тое самае. Ніякі адвакат ня браўся ў заблытанай справе памагчы. Тады а. Андрэй сам пачаў шукаць выхад з польскіх законаў і... знайшоў! Паказаў у міністэрстве, што Мілашова, хоць астаецца гаспадыняй чыншовых гаспадарак, але не мае падставы перашкаджаць рэформе. Гэтак Цікота сканфузіў і міністэрства і ваяводзтва і абараніў крыўджаных друянаў.

Падобных, вельмі трудных, няясных і прыкрых выпадкаў кляштар айцоў Марыянаў меў нямала і трэба было вялікай энэргіі, праніклівага розуму і спрыту, каб выйсьці з сытуацыі.

2) Таксама бывала ў Харбіне, які да 1945 г. знаходзіўся пад японскай акупацыяй. Тымбольш, калі японцы ўблыталіся ў вайну з Амэрыкай. Спачатку, пакуль ім вайна ручыла, японцы паказываліся героямі і дыктатарамі. Пасьля, хоць былі ўжо аслабеўшымі, не паказывалі сваёй слабасьці і трымаліся шумнай рэклямай. Апрача цяжкасьцяў эканамічных падчас вайны, калі надта цяжка было пракарміць дзяцей у трох інтэрнатах (да 500 чалавек), прылучыліся цяжкасьці палітычныя. Японцы штучна праводзілі сваю «ніппонізацыю» і вялі місію сваёй імпэратарскай рэлігіі — шынтоізму ў *форме паклонаў* перад паганскімі сьвятынямі. У эміграцкіх установах і школах на пачатку і ўканцы заняткаў давалі каманду: «Паварот у кірунку імпэратарскага палацу ў Японіі — паклон!» Другі загад: «Паварот у кірунку імпэратарскага палацу ў Манджурыі — паклон!» Трэйці загад: «Паварот у кірунку сьвятыні Чу-Рэй-То — паклон!»

Тыя першыя два паклоны мы ўвялі таксама ў сваіх школах, але паклоны ў кірунку шынтоіскай сьвятыні ў Харбіне мы не дапусьцілі, бо баяліся, што гэта пахне паганствам. Мы, праўда, рызыкавалі, што маглі зачыніць нашыя школы, бо ўсе іншыя эміграцкія школы гэтыя паклоны давалі. Аднак а. Цікота ўмеў аргумэнтаваць перад японскай уладай і захаваць павагу, як прадстаўнік Ватыкану.

Асабліва цяжкую справу мы мелі зь японскай вайсковай уладай. Ім вельмі спадабаўся дом Сясьцёр Францішканак — новы пяціпаверхавы, салідназбудаваны за горадам Харбінам. Дамагаліся прадаць яго, але Цікота станоўка адмовіўся. Канфіскаваць японцы не асьмеліліся, бо лічыліся з Ватыканам. Дык прысталі памяняць на іншы і паказывалі пару дамоў зусім няпрыгодных на кляштар для сясьцёр, на інтэрнат і на школу. Надакучвалі доўга і націскалі моцна — і мы мусялі пайсьці на ўступкі. Аднак мы вымагалі тры мільёны енаў на рамонт іхнага дому. Тут японцы знэрваваліся і казалі: «Цікота — благія людзі!». Перагаворы абарваліся, дый японцы ўжо хіліліся да ўпадку ў вайне. (Працяг на бач. 8)

# Царкоўная музыка на Беларусі

*Уступ.*

Беларуская царкоўная музыка зьяўляецца часткаю вялікай усходня-славянскай літургічнай спадчыны, іншымі складовымі часткамі якой ёсьць музыка маскоўская і ўкраінская. Яна разьвілася ў Праваслаўнай і Ўсходня-Каталіцкай («вуніяцкай») цэрквах гэтай краіны і ўжываецца ўсімі Хрысьціянамі Бізантыйскага абраду.

Правілы і спосаб ужытку літургічных кнігаў на Беларусі ў асноўным ёсьць тыя самыя, што і ў Маскоўшчыне, і на Ўкраіне.

Калі-ж ходзіць пра практыку царкоўнага сьпеву, дык тут трэба разрозьніць чатыры катэгорыі хораў:

а) *Саборныя хоры:* гэтыя хоры маюць звычайна 30 або больш сьпевакоў (Вільня, Смаленск, Пінск). Будучы першапачаткова галоўнымі асяродкамі беларускага царкоўнага мастацтва, яны пазьней сталіся цэнтрамі паліфанічнага (шматгалоснага) сьпеву ў заходнім стылі, а ў XIX стаг. падпалі пад вельмі моцны маскоўскі ўплыў. Сяньня вельмі мала беларускага асталося ў вялікіх саборах краіны.

б) *Хоры ў гарадзкіх цэрквах:* нармальна складаюцца з 15—30 сьпевакоў (мужчын і жанчын), якія сьпяваюць на чатыры галасы (Менск, Наваградак, Беласток). Абмаскаленыя ў XIX-тым стаг., некаторыя з іх сталіся асяродкамі адраджэньня нацыянальнай музыкі ў першых гадох гэтага стагодзьдзя.

в) *Вясковыя прыхадзкія хоры:* рэдка маюць больш чым 15 сьпевакоў і часам ня маюць нават рэгента. Сьпевакі сьпяваюць за дзякам і ўжываюць толькі самыя простыя хвормы гарманізацыі. Праз гэтыя хоры прасачылася ў царкоўны абыход шмат народных элемэнтаў (калядкі, кантычкі, паломніцкія песьні). Вясковыя хоры сяньня зьяўляюцца найбольш жывучымі крыніцамі нацыянальнага царкоўнага сьпеву.

г) *Манастырскія хоры:* першапачаткова прыхільнікі суровых традыцыйных хвормаў унісоннага (аднагалоснага) сьпеву, манастыры на Беларусі з часам увялі таксама паліфонію больш кансэрватыўнага характару і пачалі падтрымліваць мясцовыя адмены царкоўных напеваў (Вільня, Супрасьль, Жыровіцы, Яблочын).

Такім чынам у царкоўным сьпеве трэба разрозьніць дзьве галоўныя адмены: унісон або аднагалосны сьпеў і паліфонію або шматгалосны сьпеў. Першая адмена аднак, нажаль, вышла амаль зусім з ужытку.

Музычныя прылады, асабліва арганы, былі канчаткова адкінутыя Праваслаўнай Царквою,

## II. ПРЫЙШЛІ БАЛЬШАВІКІ

Быў жнівень 1945 г. Харбін уцалеў: японцы паддаліся. Спачатку парадак у горадзе вялі японцы пад савецкім кантролем, хоць бяз зброі. Надыйшла багатая, бліскучая савецкая армія. Пасьля пяці дзён японскія пікеты былі зьнятыя і заменены савецкімі: парадак хутка папсаваўся, хоць вялікай злыбяды ня было, апрача таго, што савецкія жаўнеры адбіралі ў людзей гадзіньнікі і інш. драбязу. Затое савецкая міліцыя дала поўную волю кітайскаму натоўпу, які рабаваў і нішчыў ўсякае японскае дабро. Японскія хаты, будынкі і фабрыкі былі цалкам да фундаманту разбураны. Вынік надыйшоў зараз-жа — ўзьнікла страшэнная даражыня і нястача хлеба і тавараў.

У такіх абставінах Цікота адважыўся пачаць новы школьны год і склікаць вучняў даўнейшых, а нават прыймаць новых. Рызыка і небясьпека пагражала палітычная і эканамічная. Аднак савецкая ўлада нас не чапала: наглядалі здалёку і кантралявалі зблізку, але пазвалялі нам працаваць. Толькі аднаго нашага настаўніка, украінца, разы тры выклікалі ў НКВД на сьледзтва і там страшэнна білі спэцыяльнай каўбасой з пяску, аднак кажны раз выпускалі.

Нарэшце аднойчы пачуўся голас у тэлефоне: НКВД выклікала а. Цікоту прыйсьці да іх на размову. Мы ўсе вельмі спалохаліся, бо тады ішла хваля арыштаў і вывазу харбінцаў у Савецкі Саюз. Гэта ўсё рабілася ціха і бяз судоў. У нас паўстала сумляваньне: чаму выклікаюць тэлефонам? Ісьці, ці ня ісьці? Калі тэлефон паўтарыўся, Цікота адказаў: «Я, як дырэктар Ліцэю Сьв. Мікалая і як Адміністратар Каталіцкай Місіі, займаю пазыцыю афіцыяльную і ўсякая ўлада павінна да мяне зьвяртацца афіцыяльна, а не праз тэлефон, бо тэлефонам можа гаварыць нейкая асоба прыватная і зрабіць правакацыю».

Як бачым, адказ быў дадзены абгрунтаваны і рэзалютны, але ўсе баяліся, што можа здарыцца нешта горшае, бо рэжым быў найгоршы. Аднак тэлефон больш не адзываўся. Толькі пасьля некалькіх тыдняў НКВД прыслала да нас пасланца, каб выклікаць а. Цікоту; пасланец ня меў ніякіх папераў. Гэтым разам Цікота аднак пайшоў: там яго выпыталі і выпусьцілі. Аб чым была размова, а. Андрэй нікому ня выясьніў: мусіць НКВД забараніла? Але нас больш не чапалі. Хутка савецкая армія пакінула Манджурыю, перадаўшы ўладу юрыдычна ў рукі Чан-Кай-Шы, а практычна ў рукі кітайскіх камуністых. Мы далей працавалі на сваім месцы.

не бяз пэўных ваганьняў, у XVII-тым стаг., але званы ўжываюцца ўсюды і ў іх звоняць у пэўныя азначаныя хвіліны ў часе Службы Божае.

Дзеля практычных меркаваньняў будзе выгадней разгледзіць дзьве вялікія галіны царкоўнай музыкі — унісон і паліфонію — асобна.

## Частка Першая

## УНІСОН

### *1. Першапачатковы пэрыяд (990—1245).*

«Першыя настаўнікі царкоўнага сьпеву прышлі... з Кіева, сталіцы Русі. Пасьля нейкага часу гэты сьпеў быў прынесены сьпевакамі з Кіева ў Ноўгарад Вялікі, а з Ноўгараду... ен распаўсюдзіўся праз доўгалетні ўжытак па ўсіх гарадох і манастырах Рускай епархіі».

Так пісаў у XVII-тым стаг. аб пачатках царкоўнай музыкі на Беларусі таленавіты беларускі царкоўны музык Аляксандар Стэмаухаў-Мяжэнец.[1]

Ідучы ўгору па Дняпры, Хрысьціянства, а з ім і царкоўны сьпеў, прышло ў Смаленск, а адсюль распаўсюдзілася на захад да Віцебска, Полацка, Менска і Горадні. Шырока адчынена для розных уплываў з усіх бакоў, Беларусь сталася плодным полем дзеля разьвіцьця багатай спадчыны царкоўнай музыкі.

У 989 г. Полацкі князь Ізяслаў быў ахрышчаны місіянэрамі, праўдападобна з Кіева, якія, згодна з даўно ўстаноўленым звычаем, будавалі цэрквы і арганізавалі хоры ў гарадох, якія яны навярталі на Хрысьціянства. Першыя місіянэры на Беларусі былі бяз сумліву Грэкі або славянамоўныя Баўгары. З сабою яны прывезьлі іконы і літургічныя кнігі і, з дапамогай мясцовых сьпевакоў, датарноўвалі Бізантыйскую літургію і напевы да мясцовых вымогаў. Грэцкая мова асталася ў ужытку на Беларусі аж да XVII-га стагодзьдзя; вялікія саборы часта мелі два хоры, якія ў перамежку, або часам і адначасова, сьпявалі пагрэцку і паславянску.[2]

Вельмі мала пэўнага ведаем аб беларускай царкоўнай музыцы X—XIII стаг. З адзінаццаці ўсходнеславянскіх музычных рукапісаў гэтага часу, якія дайшлі да нас, аб ніводным ня можна сказаць з пэўнасьцю, што ён беларускага паходжаньня. Аб хуткасьці, з якой першабытны Бізантыйскі сьпеў быў асвоены і ператвораны на свой лад мясцовымі сьпевакамі, мы можам толькі дагадвацца. Найранейшыя рукапісы паказваюць на блізкую сувязь паміж Бізантыйскім і старaславянскім музычнымі запісамі (стаўпавы, крукі, знаменны запіс). Аднак хутка паявілася разнастайнасьць запісаў і шмат новых знакаў, няведамых у грэцкай музыцы. Гэта паказвае, што чужы грэцкі сьпеў ня толькі быў хутка асвоены, але і перароблены на свой лад пад моцным уплывам народнай музыкі. Як і на Ўкраіне, на Беларусі расквітнела шмат мясцовых разнаякасьцяў царкоўнай музыкі і інакш сьпявалася ў Кіяве, інакш у Смаленску, а яшчэ інакш у Полацку ці Тураве. Школы царкоўнага сьпеву квітнелі ў Полацку (992), Тураве (1005), Віцебску (992) і Смаленску (1101). Лікава аднак хоры нават у вялікіх саборах аставаліся малымі да параўнаўча позьняга часу (XV-тае стаг.).

З Іпацьеўскай летапісі мы ведаем, што ў 1137 г. на двары князя Мсьціслава «быў рукапалажаны на япіскапа Смаленскага скапец Мануіл; ён быў выдатны сьпявак і прыйшоў з Грэцыі з двума таварышамі».[3]

Вельмі мала іншых імёнаў дайшло да нас з гэтага часу і дзеля гэтага пачаткі беларускай царкоўнай музыкі астаюцца для нас ананімнымі.

### *2. Пэрыяд Вялікага Княства Літоўскага (1245—1569).*

Мангольскі наезд у XII-тым стаг. і зьнішчэньне Кіеўскай дзяржавы часова перарвалі культурную сувязь Беларусі з Грэцыяй і Поўднем. У выніку ўтварэньня Вялікага Княства Літоўскага Беларусь у XIV-тым стаг. парвала свае сувязі з «рускімі» княствамі на Ўсходзе і накіравала свой пагляд на Захад. Нажаль вельмі мала дакумэнтаў дайшло да нас з ажыўленай культурнай дзейнасьці гэтага пэрыяду.

У галіне царкоўнай музыкі мы можам сказаць з пэўнасьцяй, што ў часе Вялікага Княства Літоўскага знаменны расьпеў дасягнуў свайго найвышэйшага росквіту. З параўнаўча простых хвормаў першабытнага пэрыяду вытварылася вельмі абшырная і скамплікаваная сыстэма «папевак» (г. зн. узораў) і «фітаў» (арнамантальных фразаў). Мясцовыя розьніцы паглыбіліся і ўся далейшая гісторыя знаменнага расьпеву на Беларусі пайшла ў іншым напрамку, чым, скажам, у Маскоўшчыне. У галіне музычнага запісу «крукі» на Беларусі мелі іншае значэньне, чым у другіх краінах, а апрача гэтага там паявіліся

[1] «Первые церковные песноначители были в столичном Российския державы Богоспасаемом граде Киеве; по неколикіх же летех от Киева сие пение некими люборачителями пренесеся до Великого Новаграда; от Великого же Новаграда распространися и умножися толиком долговременством сего пения учение во вся грады и монастыри великороссийския епархии и во все пределы ея». Гл. Д. В. Разумовский, «Церковное пение в России», Масква 1867—69. бач. 58.

[2] R. Palikarova-Verdeil, „La Musique byzantine chez les Bulgares et les Russes“ — Monumenta Musicae Byzantinae Subsidia, Vol. III, Kobnhavn 1953, p. 136, 154.

[3] «Прэставлен бысьць скопец Мануіл епіскоп Смоленску, певец гораздый іжэ прышэл от Грэк сам трэці». (гл. Н. Финдейзен: «Очерки по истории Музыки в России». М. и. Ленинград 1928, бач. 87).

адменныя музычныя знакі, якія нідзе больш не сустракаюцца.[4]

Знаменны сьпеў паводля свайго характару быў вельмі ўрачысты і суровы. Ён зьяўляўся найвышэйшым дасягненьнем беларускай сярэднявяковай царкоўнай музыкі. (Іл. 1).



*Беларуская знаменная натацыя*
*(з пал. XVI стаг.)*

Апрача дзяка Сенькі з Смаленску, імя якога сустракаецца ў адным з рукапісаў XV-га стаг.,[5] мы ведаем вельмі мала аб беларускіх сьпеваках гэтага часу.

У паўночных гарадох, як Полацак і Віцебск, царкоўная музыка была падобнай да музыкі ў Ноўгарадзе і Пскове. Аднак далей на поўдзень і захад — асабліва на Падлясьсі — можна было ўжо адчуць уплыў вялікіх галіцкіх культурных асяродкаў, як Пярэмысьль, Львоў і Сандомір.[6] Стары знаменны расьпеў памаленьку ператвараўся ў новы, больш заходні, «Кіеўскі» або лепш «Кіеўска-Літоўскі». Найбольш выдатным помнікам гэтага апошняга ёсьць Супрасьльскі Ірмалёгіян.

Ужо на самым пачатку , як было сказана вышэй, беларускі знаменны напеў (або стаўпавы, напеў) меў свае асаблівыя рысы, адменныя ад маскоўскага. Далейшая апрацоўка гэтага напеву мясцовымі музыкамі яшчэ больш аддаліла яго ад першапачаткавых, у бальшыні агульных для ўсіх, старaславянскіх хвормаў. У Маскоўшчыне, асабліва у Ноўгарадзе і Маскве, старaславянскі сьпеў ператварыўся дзякуючы мясцоваму ўплыву ў ведамы знаменны напеў сынадальнага абіходу. На Беларусі і Ўкраіне стары знаменны расьпеў, які ўжо меў шмат сваеасаблівасьцяў, даў пачатак, дзякуючы мясцоваму мастацкаму генію і смаку, зусім новаму цыклю расьпеваў, які мы можам назваць «Кіеўска-Літоўскім». Старыя простыя напевы былі аздобленыя беларускімі музыкамі, якія часта стараліся іх падоўжыць або скараціць, або зусім зьмяніць рытм. Паколькі ў маскоўскай музыцы цяжка знайсьці мэлёдыі з інтарваламі большымі за адну чацьвертую ці пятую, у беларускіх ірмалёгіянах XVII-га стаг. сустракаюцца часта мэлёдыі з інтэрваламі аднэй шостай, сёмай і цэлай актавы. Суровасьць старога знаменнага расьпеву была зьмягчана і дала месца большай цяплыні і жыцьцярадаснасьці.[7]

Балканскі ўплыў прыходзіў на Беларусь цераз малдаўскі манастыр у Н'ямцэ (баўгарскі ўплыў) і Львоўскае Стаўрапігіяльнае Брацтва (грэцкі ўплыў).[8] У пачатку XV-га стаг. Баўгарын

---

[4] Кароткае апісаньне двух ведамых беларускіх знаменных рукапісаў — кодаксы Львоўскі і Пярэмысьльскі (абодвы з паловы XVI-га стаг.) — можна знайсьці у: Г. дэ ля Прадэль, «Рукапісны помнік беларускай музыкі XVI-га стагодзьдзя», Бацькаўшчына, Но. 1 (601), Мюнхэн 1963, бач. 3; і у G. Pichura, „Monuments of Byelorussian Church Music“ — Eastern Churches Quarterly Vol. XIV, London 1962, pp. 411—12.

[5] Гл. Ф. Добрянский, «Описание рукописей Виленской Публичной Библиотеки, Вільня 1882, бач. 287, Но. 161.

[6] Існаваньне квітнеючага культурнага цэнтру у Заходняй Галіцыі было адчута Разумоўскім (op. cit., бач. 81) і дапушчана G Millet („L'Art byzantin chez les Slaves“ X. L'Orient et Byzance, V. 2e recueil, 2e partie, Paris 1932, pp. 425—26).

Блізкасьць Галіцыі да Кракава прывяла да таго, што шмат «рускіх» артыстаў шукала шчасьця на двары магутных каралёў Ягайлаўскай дынастыі. Пасьля сьмерці Ядвігі, наступная каралева мела ў 1415 г. групу «рускіх музыкаў» у Кракаве. Кароль Казімір, вялікі любіцель бізантыйскага мастацтва, бяз сумлеву меў «рускіх» сьпевакоў у сваёй капліцы. («Ягайла, а пасьля ягоныя наступнікі. вельмі цанілі рускіх сьпевакоў». Гл. H. Feicht. „Krakow“ — Musik in Geschichte und Gegenwart, Basel 1962, p. 1692).

[7] Б. Вольман, «Русские печатные ноты XVIII века», Ленінград 1957, бач. 22.

[8] Грэцкая арыентацыя Львоўскага Брацтва (заложанага ў 1429 г.) добра ведамая. Настаўнікі грэцкай мовы былі высланы адтуль у Малдавію ўжо у 1558 г. (Гл. Разумоўскі, op. cit., бач. 81), а ў 1588 г.

Рыгор Цамбляк быў Кіеўскім Мітрапалітам з аседкам у Наваградку (1415—1420). Цамбляк быў выдатным царкоўным музыкам і вельмі магчыма, што гэта ён увёў або ўлажыў некаторыя баўгарскія расьпевы», якія сустракаюцца ў беларускіх і ўкраінскіх ірмалёгіянах.[9] Балканскія япіскапы нярэдка наведвалі Беларусь. У Супрасьльскім Ірмалёгіяне ёсьць «надзвычай прыгожая» мэлёдыя Херувімскай песьні, якая завецца «Царгародзкая». Гэтая мэлёдыя была запісана манахамі ад патрыяршага сьпевака ў часе адведзінаў Антыёхскага Патрыярха Іоакіма ў Супрасьльскім Манастыры ў 1583 г.

Хоць Балканскі ўплыў на царкоўную музыку на Беларусі быў наймацнейшы ў XV—XVI стаг., аднак трэба прыпушчаць, што напевы з Баўгарыі і Грэцыі трапплялі на Беларусь на працягу ўсяго срэднявечча. Шматлікія Мітрапаліты і япіскапы таго часу былі Грэкамі або Баўгарамі; яны прыязджалі на Беларусь з сваімі д'яканамі і сьпевакамі, і іхнія сьпевы былі перайманыя і насьледаваныя Беларусамі. Асабліва добра яны надаваліся для ўрачыстых нагодаў, і якраз для гэтай мэты яны ўжываліся аж да канца XVII-га стаг.[10]

Падсумоўваючы, у канцы XVI-га стаг. на Беларусі існавала некалькі цыкляў царкоўных расьпеваў: Беларускі знаменны або стаўпавы, «Кіеўска-Літоўскі», Супрасьльскі, розныя мясцовыя расьпевы і, ўрэшце, урачыстыя расьпевы прывезеныя з Грэцыі, Баўгарыі і Сэрбіі.

Распаўсюджваньне на ўсход Лацінскага Каталіцызму і адыход ад праваслаўя беларускай шляхты мелі глыбокі ўплыў на далейшае разьвіцьцё беларускай царкоўнай музыкі. Сяньня цяжка сказаць, які ўплыў меў заходні грэгар'янскі сьпеў на стараславянскі царкоўны сьпеў у XIV—XV стаг., хоць бяз сумлеву такі ўплыў быў, магчыма цераз лацінскія цэрквы нямецкіх купцоў у Смаленску, Віцебску, Вільні,[11] а таксама цераз каралеўскую капліцу ў Кракаве.[12]

Найбольш заходні ўплыў адчуўся ў галіне музычнага запісу. У першапачатковым пэрыядзе ўсходнеславянская царкоўная музыка запісвалася пры дапамозе знакаў (крукі, знаменны), якія былі адменаю і далейшым разьвіцьцём грэцкага музычнага запісу. Гэта былі кручкападобныя значкі, якія пісаліся ў адзін рад над лініяй тэксту. З гэтых параўнаўча простых знакоў разьвіліся пасьля вельмі скамплікаваныя «крукі» і «фіты», асабліва ў Маскве і Ноўгарадзе, дзе яны ўжываліся яшчэ ў XVII-тым стаг.[13]

На Беларусі, а таксама ў Галіцкай і Карпацкай Украіне, гэты знаменны запіс пачаў занепадаць ужо ў канцы XV-га стаг. Ягонае месца заняў пяцілінейны запіс з квадратнымі нотамі, які тады ўжываўся на Захадзе. На Беларусі ён быў ведамы, як «Кіеўскі» або «Квадратны» запіс. Такі запіс стаўся неабходным з увядзеньнем паліфоніі, бо знаменны выявіўся неадпаведным дзеля запісу гарманізацыі на два, тры ці чатыры галасы. Прыпушчаецца, што «квадратны» запіс быў прывезены на Беларусь Гусытамі хутка пасьля Грунвальдзкай бітвы (1410), магчыма праз Гераніма Праскага й іншых прапаведнікаў.[14] У канцы XVI-га стаг. ён быў распаўсюджаны па ўсёй Беларусі, а ў Маскву ён трапіў толькі ў наступным стагодзьдзі.

Беларуская музычная літургічная спадчына пабагацела ў XV-ым стаг. цераз распаўсюджваньне ў народзе паралітургічных песьняў, як калядкі, песьні на розныя сьвяты, паломніцкія песьні (канты). Бальшыня з іх былі насьледваньнем заходніх мадэляў, асабліва гусыцкіх і таба-

---

два грэкамоўныя дзякі былі высланыя ў Вільню выкладаць гуманістыку ў школе Сьвятадухаўскага Брацтва. (Гл. Д. Сцепкуро, «Виленское Святодуховское Братство в 17 и 18 ст.», Труды Киевской Духовной Академии, 1899. Вып. VI, бач. 262).

[9] Існуюць пэўныя сумлевы адносна гэтай тэорыі. (Гл. Палікарова-Вэрдэйль, op. cit., бач. 218—19).

[10] Прот. И. Вознесенский, «Церковное пение Православной Югозападной Руси», Масква 1898. Вып. I, бач. 17—20.

[11] Лацінская царква Багародзіцы ў Смаленску была заложана ў 1229 г.; Віцебск і Полацк вялі ажыўлены гандаль з Рыгаю і Гоцкім пабярэжжам. У Вільні ў XVI-тым стаг. было ўжо каля 6 лацінскіх цэркваў, уключна з катэдраю сьв. Станіслава, якая магла пахваліцца сваім хорам ужо ў 1465 г. Другая лацінская школа сьпеву была закладзена пры царкве сьв. Яна у 1513 г. „Przeznaczona dla 22 uczniów, z których 6 miało śpiewać w chórze Katedry". (Гл.: Ks. Stanisław Załęski, T. J., „Jezuici w Polsce", Lwów 1900. Tom I, st. 179).

[12] Няма ніякага сумлеву адносна ўзрастаючага ўплыву лацінскай музыкі на беларускую царкоўную. Цяжкасьць ляжыць у ўстанаўленьні дакладнай даты, калі гэты ўплыў пачаўся. Вельмі праўдападобна, што ўжо ў пачатку XIV-га стаг. элемэнты грэгар'янскага сьпеву праніклі ў праваслаўныя цэрквы, магчыма нават з лацінскім тэкстам. Флярэнцкая Вунія (1438) напэўна спрычынілася да ўзмацненьня лацінскага ўплыву, хоць у якой меры — цяжка сяньня ўстанавіць дзеля недахопу пэўных крыніцаў. Ёсьць устаноўленым, што «рускія» сьпевакі былі на двары Ягайлы ўжо ў 1415 г. (Гл. Файхт, op. cit., бач. 1692). Працы такіх вялікіх тэарэтыкаў грэгар'янскага сьпеву, як Майстар з Шыдловіц (XV стаг.) і, пасьля, Сэбастыян з Фэльштыну, не маглі ня мець уплыву на гэтых сьпевакоў. Апрача гэтага беларускія студэнты ў Літоўскіх калегіях у Кракаве і Празе былі знаёмыя з лацінскім сьпевам цераз іхнія унівэрсытэты.

[13] A. Swan, „The Znamienny Chant of the Russian Church" — The Music Quarterly, Vol. XXVI, Nos. 2 & 4, New York 1940.

М. Куліковіч, «Беларуская музыка», Нью Ёрк 1953; Г. дэ ля Прадэль, op. cit.

[14] Разумовский, op. cit., бач. 81. Ёсьць вялікае падабенства паміж раньнім квадратным запісам і запісам розных гусыцкіх сьпеўнікаў XV-га стаг., як напр. „Kancional Istebnicki" (J. Chominski i Z. Lissa, „Historia Muzyki Powszechnej", PWM Warszawa 1957, Tom I, str. 241).

рыцкіх гімнаў.[15] Гэтыя песьні былі хутка ўспрынятыя вернымі і малыя зборнікі іх пачалі ўжо паяўляцца ў канцы XV-га стаг. Многія мэлёдыі з гэтых раньніх «канцыяналаў» або «богагласьнікаў» перайшлі пасьля да нармальнага літургічнага ўжытку. Яны былі датарнаваныя да такіх частак Літургіі сьв. Яна Залатаустага, як «Херувімская песьня» і іх можна спаткаць у Ірмалёгіянах Супрасьльскім (1601), Львоўскім (1700), а нават у Маскоўскім абіходзе (1772).

Такім чынам шмат ведамых і дарагіх народу напеваў маюць сваю аснову ў гэтых старых народных «кантах» і часта нават носяць іхнае імя. Так напр. Херувімскі напеў «На радуйся» бярэ свой пачатак ад канту «Радуйся радасьць тваю» (гл. таксама Херувімскія «Слуцкую», «Старасімонаўскую» і т. д.).[16] Яны былі ведамыя ня толькі на Беларусі, але распаўсюдзіліся па ўсёй Украіне і Маскоўшчыне і сталіся часткаю агульнай усходня-славянскай музычнай спадчыны.[17]

*3. Занялад (1569—1700).*

Палітычная вунія Вялікага Княства Літоўскага і распаўсюджаньне друку прысьпешылі арыентацыю на захад беларускай царкоўнай музыкі. Музычная друкарня была заложана пры каралеўскім двары ў Кракаве ў 1503 г. немцам Гохфэльдарам.[18] Школы сьпеву працавалі ў Калегіі Рарантыстаў у Кракаве (1545), Езуіцкай Калегіі (пасьля Унівэрсытэце) ў Вільні (1569), а таксама ў Езуіцкай Калегіі ў Полацку (1581). Усюды італьянскія майстры «новага мастацтва» навучалі паліфоніі і ўзгадоўвалі сьпевакоў. Іхнія мілагучныя напевы сталіся вельмі папулярнымі і хутка нават праваслаўныя беларусы пачалі іх пераймаць і датарноўваць да літургічных тэкстаў. Такім чынам у розных славянскіх рукапісах позьняга XVI-га і раньняга XVII-га стаг. можна знайсьці напевы, якія носяць такія назовы, як «Кралевскі», або «Езувіцкі».[19]

Двары беларускіх вяльможаў былі вялікімі асяродкамі заходняга ўплыву. Так, напрыклад, на двары князя Радзівіла ў Нясьвіжы быў надрукаваны ведамы кальвінскі Катахізм, які меў шмат польскіх гімнаў. Княжыя цэрквы ў Слуцку і Міры маглі пахваліцца собскімі расьпевамі. Абодва яны носяць адзнакі заходняга ўплыву, хоць у Слуцкім расьпеве гэты ўплыў адчуваецца больш.

Праваслаўныя манастыры і брацтвы былі цьвярдынямі кансэрватызму і супраціву новай модзе, аднак іхны сьпеў быў часта папсаваны церазмернай вакалізацыяй (заснаванай на такіх, на першы погляд, бяссэнсавых словах, як «Аненане» ці «Леге») і скрыўленьнем тэксту (хомонія). Аднак сярод іх пачаў адчувацца ў другой палове XVI-га стаг. рух за павышэньне ўзроўню традыцыйнага царкоўнага сьпеву. Манахі-музыкі былі запрошаныя з Украіны, Грэцыі і іншых балканскіх краінаў з мэтаю аднавіць і ўзбагаціць царкоўную музыку на Беларусі. Беларускія ірмалёгіяны таго часу маюць шмат напеваў, якія носяць назоў «Грэцкі», «Баўгарскі» і «Сэрбскі», а ў манастырскіх цэрквах у Супрасьлі, Вільні і Жыровіцах сьв. Літургія часткова адпраўлялася пагрэцку.[20]

Галоўным асяродкам, які ўславіўся сваім сьпевам і які найбольш прычыніўся да ўзбагачэньня беларускай царкоўнай музыкі, быў бяз сумлеву Благавешчанскі манастыр у Супрасьлі. У гэтым слаўным манастыры, адноўленым у 1509 г. Аляксандрам Хадкевічам, увесь цыкль беларускай літургічнай музыкі быў сабраны і запісаны. Гэты рукапіс, ведамы сяньня як Супрасьльскі Ірмалёгіян (1601 г.), зьяўляецца найбольш цэнным помнікам беларускага ўнісоннага царкоўнага сьпеву пазьнейшага часу.[21] Аўтар рукапісу, Багдан Анісімовіч з Пінску, ведаў і любіў царкоўную музыку, асабліва напевы Супрасьльскага манастыра, і выканаў свой твор з

---

[15] Лацінскія гімны заўсёды былі тлумачаныя на польскую, літоўскую і славянскую мовы, і пасьля былі хутка асвоеныя беларусамі. Так напр. лацінская калядка «Ангэлюс пасторібус діксіт»ператлумачаная на польскую мову сталася «Анёл пастэжом мувіл», а пасьля, па славянску, «Ангел пастырем вестіл»; «Стабат матэр» сталася «Стала матка» і т. д. (Гл. П. Бессонов, «Знаменательные года и знаменательнейшие представители последних двух веков в истории церковного русского песнопения», Масква 1872, бач. 32—33). Гэты рух аднак ня быў аднакірунковым. Так напр. бізантыйская малітва «Сьвяты Божа» ёсьць вельмі папулярная ў лацінскай Польшчы.

[16] Гл. А. Преображенский. «От униатского канта до православной херувимской», Музыкальный Современник, кн. VI, Пецярбург 1915—16.

Старыя польскія канты, як напр. песьня сьв. Станіслава «Гаўдэ Матэр Полёнія», напэўна выконваліся ў віленскай катэдры, якая насіла імя гэтага сьвятога, і іхнія мэлёдыі былі зьдзіўляюча падобнымі да некаторых «херувімскіх», што спатыкаюцца ў ірмалёгіянах XVI-га і XVII-га стаг.

[17] На Беларусі першы канцыянал быў уключаны ў Нясьвіскі кальвінскі Катахізм (1563).

[18] H. Feicht, op. cit. p. 1694.

[19] А. Преображенский. «Культовая музыка в России», Ленінград 1924, бач. 57.

[20] Д. Сцепкуро, op. cit., бач. 262; гл. таксама заўвагу [8]. У XVI і XVII стаг. сувязі з манастыром Хіляндарыян і Заграфу на Сьвятой Гары былі асабліва ажыўленыя.

[21] Кароткае апісаньне рукапісу можна знайсьці у Г. Піхуры, op. cit., бач. 412.

[22] Слова «дземестванны» мела на беларусі зусім іншае значэньне чым у Маскоўшчыне. У Маскве дземестванны напеў быў напевам ужываным на царскім двары. На Беларусі слова «дземестванны» ўжывалася дзеля азначэньня мясцовых напеваў у адрозьненьне ад поўных цыкляў традыцыйных літургічных расьпеваў.

[23] Гл. В. Металлов. «Русская Симиография», Москва 1912. бач. 23—25, табліца CIX.

вялікай любоўю, паказаўшы пры гэтым нямала мастацкага таленту.

Арыгінальны рукапіс Супрасьльскага Ірмалёгіяну зьяўляецца адным з найранейшых пры-



*Супрасльскі Ірмалогіян — Раньняя квадратная катацыя (1601 г.)*

кладаў «Кіеўскага», або «квадратнага», запісу. У ірмалёгіяне зьмешчаны службы Вячэрні і Утрані на ўсе 8 літургічных тонаў (псальм «Госпадзі возвах», сьціхіры, ірмасы, падобны і т. д.), а таксама розныя напевы для сьв. Літургіі і на сьвяты. Характэрнай і цэннай рысай Ірмалёгіяну ёсьць тое, што ў ім зьвяртаецца вялікая ўвага на паходжаньне розных напеваў (Супрасьльскі, Мірскі, Канстантынопальскі, Баўгарскі і т. д.). Цэлы цыкль г. зв. «дземественных» напеваў зьяўляецца сапраўднай скарбніцай беларускага літургічнага генія.[22] (Іл. 2). Паводля свайго характару, мэлёдыі Супрасьльскага Ірмалёгіяну (Супр. расьпеў) часткова падыходзяць да паўднёва-заходняга і «Кіеўскага» расьпеваў, а часткова адчуваецца ў іх балканскі ўплыў. Трэба аднак зазначыць, што час, у якім Ірмалёгіян быў складзены, у адрозьненьне ад папярэдніх пэрыядаў, быў часам арыгінальнай спэцыфічна- беларускай творчасьці. Ёсьць вялікае падабенства паміж Супрасьльскім Ірмалёгіянам і, больш ведамым, Львоўскім, які паявіўся амаль сто год пасьля, у 1700 г. Аднак супрасьльскія напевы ёсьць больш суровыя і пачуцьцёва больш глыбока рэлігійныя, і таму бліжэйшыя да старога знаменнага расьпеву.

На працягу ўсяго XVII-га стаг. напевы заходня-беларускага цыклю цешыліся вялікім посьпехам і да нас дайшло шмат ірмалёгіянаў з гэтага часу. Асабліва годным увагі ёсьць Жыровіцкі Ірмалёгіян (1661), які мае ў сабе шмат прыгожых мясцовых адменаў і напеваў.

Беларускія напевы распаўсюдзіліся таксама і ў Маскоўшчыне, дзе, разам з напевамі ўкраінскага цыклю, яны былі часткова абмаскаленыя і неправідлова названыя «Кіеўскім расьпевам». Аднак гэты канчатковы ўздым беларускай музыкі быў канцом усяго пэрыяду. Паўстаньне і слава Магілёўскай Акадэміі ў Кіеве (1633) пры-

*(1) Беларускі знаменны расьпеў (палова XVI стаг.): Ірмас 4-га гласу, песьня I. Спроба транскрыпцыі праз Праф. I. Гарднэра.*




*(2) Супрасьльскі расьпеў (з Супрасьльскага Ірмалёгіяна 1601 г.):*




*(3) Віленскі напеў (з Жыровіцкага Ірмалёгіяна 1661 г.): Херувімская песьня.*



# Адносіны вучоных хэмікаў да Бога і рэлігіі

Хэмія гэта навука, якая займаецца складам матэрыі — элемэнтамі; дасьледуе законы і ўласьцівасьці злучэньня элемэнтаў. З усіх галінаў навукі хэмія найбольш упаважненая гаварыць аб тым, якое паняцьце мае аб матэрыі людзкі розум; ці яна ёсьць чымсьці найвышэйшым у сьвеце, ці над ёю яшчэ мусіць быць Нешта Вышэйшае. Ад пару дзесяткаў гадоў зьявілася яшчэ новая галіна веды — атамная фізыка, якая яшчэ больш кампэтэнтная гаварыць аб сутнасьці матэрыі. Аб адносінах фізыкаў да Бога ўжо была гутарка на старонках нашага часапісу ў Нр. 35—36.

Паколькі матэрыялісты ўсіх колераў па-за матэрыяю ня хочуць бачыць ніякае Вышэйшае Сілы, дык для кожнага будзе вельмі карысным даведацца, як адносяцца да гэтага пытаньня найбольшыя вучоныя хэмікі, як людзі найбольш панятыя гаварыць у імені навукі.

Зачнём наш агляд ад вучоных з пачатку XIX ст., бо агульна ведама, што старэйшыя вучоныя за вельмі малым выняткам былі веруючымі людзьмі, дзеля гэтага нават і бязбожнікі ня важацца спасылацца на іх. Але навейшых вучоных бязбожная прапаганда няраз сіламоц хоча залічыць да недаверкаў, хоць і не называе іхных прозьвішчаў. На колькі бязбожная прапаганда супярэчыць праўдзе, вось адказы самых вучоных:

*Кавэндзіш (Cavendish)* Гэнрык (1731—1810). Выдатны ангельскі хэмік, які шмат прычыніўся да ўдакладненьня веды аб паветры і вадзе. Быў шчыра рэлігійным, падобна як дэ Люк і Ньютон.

*Прыстлей (Priestley)* Язэп (1733—1804). Ангельскі хэмік, шырокаведамы як папулярызатар хэмічных ведаў, меў так-жа немалыя заслугі ў дасьледаваньні тлёну. Займаўся так-жа шырокаю рэлігійнаю дзейнасьцю, даходзячы пры гэтым да супярэчных выснаўкаў. Але сапраўдным выявам ягонае пабожнасьці была ягоная сьмерць. Адчуваючы набліжэньне апошняе хвіліны, казаў чытаць сабе Эвангельле, а потым падзякаваў Богу за ўсё сваё жыцьцё і за спакойную сьмерць. Да ўнукаў на разьвітаньне казаў: «Я хутка засну, як вы, але мы абудзімся ўсе разам, і я спадзяюся, будзем вечна шчасьлівыя».

*Лявуазье (Lavoisier)* Антон-Лаўрэн (1743—1794). Выдатны францускі хэмік, які даў пачатак мадэрнай хэміі. Жыў у часе францускае рэвалюцыі, але астаўся верны сваім рэлігійным перакананьням. Лемуэн казаў аб ім: «Вялікае імя Лявуазье мусіць быць названае ў нашым Таварыстве з асабліваю пашанаю, бо гэты славуты хэмік быў і астаўся веруючым. Гэта факт, які выяўляецца з усіх дакумантаў, што нядаўна знойдзена датычна ягонае асобы. Асабліва вартаснае ў гэтай справе зьяўляецца бяссумніўнае сьветчаньне Грімо, які меў у руках шмат дакумантаў гэтага вялікага чалавека».

*Шапталь (Chaptal)* Жан-Антон (1756—1832). Францускі хэмік і міністр Напалеона, шмат прычыніўся да распрацаваньня індустрыяльнае і земляробскае хэміі. Заўсёды быў веруючым.

*Вакэлен (Vauquelin)* Людовік-Мікола (1763—1829). Вельмі плодны францускі фізык і хэмік у галіне мэталюргіі, мінэралёгіі, фармакалёгіі і асабліва ў крышталёграфіі. Першы знайшоў хром і шматлікія злучэньні мэталяў. Быў непрактыкуючым, але веруючым.

*Дальтон (Dalton)* Джон (1766—1844). Ангельскі хэмік, які першы сфармуляваў атамную тэорыю, ён-жа выкрыў вады зроку, названыя ягоным іменем. Агульна ведама, што ён быў веруючым.

*Тэнард (Thenard)* Людовік-Якаў (1777—1857). Выдатны францускі хэмік, супрацоўнік Гай-Люсака, шматгадовы прафэсар. Вызначыўся сваімі працамі ў азначэньні аналізы арганічнае матэрыі, вынайшоў перакісь вадароду, бор і інш. Быў шчыра веруючым, заўсёды чытаў «Насьледаваньне Хрыста». Адпаведна да свае шчырае

---

вялі да перавагі ўкраінскага стылю і смаку, які зацьміў Беларусь аж да пачатку цяперашняга стагодзьдзя.

Апошнім прадстаўніком старой школы ў беларускай царкоўнай музыцы быў Аляксандар Стрэмаухаў-Мяжэнец (дзейнічаў у 1652—68 г.), ды ён жыў і працаваў у Маскве ў галіне маскоўскага знаменнага расьпеву.[23] Народжаны у Ноўгарадзе Северскім ад беларускіх бацькоў, Мяжэнец уступіў у Зьвенігародзкі манастыр, прыняўшы імя Савіны. Будучы праціўнікам заходняга стылю ў царкоўнай музыцы, што пранікнуў аж да ягонага роднага гораду цераз езуіцкія місіі, Мяжэнец выбраў Маскву, як яшчэ не «заражаную» новай модай. Там ён праз нейкі час стаяў на чале камісіі назначанай царом Аляксеем Міхайлавічам дзеля рэформы царкоўнага сьпеву.

Традыцыйная царкоўная музыка траціла грунт у змаганьні з новай заходняй модай. Аднагалосны сьпеў (унісон), як жывое мастацтва, практычна перастаў зусім існаваць, калі манастыры, якія яго стварылі і баранілі, самі паддаліся чару паліфоніі.

Г. Піхура

*(Далей будзе)*

веры быў кансэквэнтны ў сваіх паступках, заўсёды згодных з пераканаяньнем. Штодзенна быў на Службе Божай і выконваў усе рэлігійныя практыкі.

*Дэйві (Davy)* Гумфры (1778—1829). Ангельскі фізык і перадусім хэмік, вынайшоў алькалічныя мэталы і зрабіў шмат адкрыцьцяў у параўнаўчай хэміі. На просьбу шахцёраў забясьпечыць іх жыцьцё ад выбухаў газу, найшоў лямпу бясьпекі. Быў шчыра веруючым пратэстантам. Адносна бязбожжа пісаў: «Атэізм ёсьць неапраўданаю памылкаю. Калі ўсе ня маем тое самае веры ў адну аб'яўленую рэлігію, дык усё-ж духовая філязофія навукі нас запрашае прыхіліцца прынамся да прыроднае рэлігіі».

«У маёй маладосьці я быў скептыкам... Потым я стаўся веруючым. Я дзякую Найвышэйшаму Розуму, што Ён паслаў мне некалькі праменьняў свайго боскага сьвятла, каб лепш прасьвяціць мяне ў маіх сумнівах і ў цемры».

*Гай-Люсак (Gay-Lussac)* Язэп-Людовік (1778—1850). Выдатны францускі хэмік, які вынайшоў закон распаўсюджаньня газаў, закон суадносінаў цяжару да паверхні газаў, званы ягоным іменем і шмат іншага. Ён першы збудаваў паветраны балён і вынайшоў шмат фізычных прыладаў. Веру меў нямоцную, але недаверкам ня быў. У сваім «Трактаце аб хэміі» выступаў супраць прыпадковасьці. А ў лістох няраз нават так выказваўся: «Мы забавязаны выказаць Богу глыбокае прызнаньне і мы пяём Яму хвалу за ласкі, якімі нас абдарыў. Я ў асобнасьці, Яму забавязаны шмат».

*Бэрцэліюс (Berzelius)* Якаў (1779—1848). Выдатны швэдзкі хэмік, які выкрыў шмат новых элемэнтаў, быў глыбока пабожны і перад усім сьветам выказваў сваю веру ў Бога: «Нейкая сіла, што перавышае нашую думку і якая знайходзіцца панад няжывою прыродаю, увяла жыцьцёвы прынцып у неарганічныя масы, і там яна гаспадарыць не як нейкае дзеяньне прыпадку, але з крайняю мудрасьцю і дзіўнаю markазнаякасьцю».

*Дюлёнг (Dulong)* Пятро-Людовік (1785—1838). Францускі фізык і хэмік, знаны з сваіх працаў у атамнай хэміі. Быў скромным і шчыра веруючым.

*Шэврэль (Chevreul)* Мішэль-Аўген (1786—1889). Выдатны францускі хэмік, які зрабіў шмат адкрыцьцяў у галіне хварбаў і тлушчаў. Аб сваіх рэлігійных пераканаяньнях казаў: «Я ніколі ня быў матэрыялістам, ніводнае хвіліны ў маім жыцьці, бо мой дух ніколі ня можа пагадзіцца з тым, каб такая вялікая падвойная гармонія, якою ёсьць гармонія сузор'яў і гармонія малекулаў... была вынікам прыпадкаў». На запытаньне графа Монтравэль пісаў: «Я зьяўляюся толькі вучоным, аднак тыя, што мяне знаюць, ведаюць, што я радзіўся ад хрысьціянскіх каталіцкіх бацькоў, жыву як каталік і хачу памерці каталікам». У сваім творы «Гісторыя хэмічных навукаў» гэтак зьвяртаецца да бязбожнікаў: «І як пасьля гэткіх разважаньняў сказаць: Бога няма! Такое цьверджаньне раніць усе мае пачуцьці як вучонага і як чалавека».

*Бэкэрэль (Beccequerel)* Цэзар-Антон (1787—1878). Выдатны францускі фізык і хэмік, зрабіў нямала адкрыцьцяў у галінах электрычнасьці, цяпла і сьвятла. Быў веруючым. Эйм'е аб ім кажа, што ён уміраў з чыстасьцю духа мудрацоў і з супакоем душы цнатлівага чалавека, з вераю ў несьмяротнасьць душы і надзеяю на Бога». У сваіх выкладах ён аднойчы зацытаваўшы сказ Барцэліюса аб існаваньні Бога, казаў: «Думаю, што гэтыя ўзьнёслыя словы павінны быць добра зацемленыя, каб паказаць, што найбольшыя духі ня мелі такога пагляду быццам матэрыя сама праз сябе можа ператварыцца ў арганізм, але толькі пры помачы сілы, якая апаноўвае неарганічную матэрыю». Аб крыніцы сваіх рэлігійных пераканаяньняў ён казаў: «Гэта мае досьледы прывялі мяне зноў да Бога і да веры».

*Пэльлет'е (Pelletier)* Язэп (1788—1842). Францускі хэмік, які ўнёс шмат новага ў веду аб алькалёідах, сульфатах і аб хіне. Быў шчыра пабожны. Яго між іншымі пабожнымі вучонымі браў для сябе як прыклад вялікі матэматык Коші.

*Фарадэй (Faradey)* Міхась (1791—1867). Ангельскі фізык і хэмік, найбольшы экспэрымэнтатар свайго часу, зрабіў шматлікія вынахады і адкрыцьці ў галіне веды аб электрычнасьці, магнэтызьме і сьвятле. Належаў да англіканскае сэкты глясістаў, вызначаўся глыбокаю пабожнасьцю. У 1847 г. ён кончыў свае выклады ў Каралеўскім Інстытуце такімі словамі: «Наша веда, якая пазнае ў прыродзе толькі рэчаў, мусіць нас прывясьці да думкі аб Тым, чыім творам яны зьяўляюцца, бо праз аўтарытэт, які стаіць шмат вышэй як той, што прамаўляе з гэтых твораў, выказваецца тое, што ў іх ёсьць нябачнае. Аднак пасьля сатвараньня сьвету можа быць ясна бачанае праз творы Яго вечная магутнасьць і боскасьць».

*Шэнбайн (Schönbein)* Хрыстыян-Фрыдрых (1799—1868). Нямецкі хэмік, які выкрыў калёіды, шмат дасьледаваў жалеза, азон і зьявішча каталізацыі. Быў глыбока рэлігійным пратэстантам. Аб сваёй веры пісаў: «Уся прырода аб'яўляе нам Бога, Якога мудрасьць і магутнасьць упакорвае нашу гордасьць, спрыяе студыям і працы, бо ў Яго творах мы вучымся пазнаваць Яго і ўшаноўваць». Варта заўважыць, што да каталіцызму адносіўся прыхільна: «Што я знайходжу надзвы-

# Прасьлед веры і Царквы ў Савецкім Союзе

Весткі адтуль прыходзяць рэдка і вельмі асьцярожныя. У пэрыядзе Сталіна кажнае слова праўды аб уціску рэлігіі лічылася шпіёнствам і каралася надта цяжка.

Цяпер прасьлед стаўся больш аглядны і глыбей падступны, тэрміны кары зменшыліся, але націск існуе і ў апошніх часох узмацняецца. Бязбожная рэкляма на Захадзе ўгаварывае, што ў Саветах пануе поўная свабода рэлігіі і Царквы: на няшчасьце наіўны Захад такой прапагандзе верыць.

Зьмяшчаем выняткі з лістоў, якія неяк дайшлі ад родных з Савецкай Беларусі. Адзін з нашых айцоў быў на высылцы ў лягеры Іркуцкай вобласьці ў Сібіру — яму пісалі парахвіяне:

«Ходзім у касьцёл ў Задарожы . . .» А Задарожа — гэта страшэннае «Бездарожжа» і даезд туды быў вельмі трудны па гліністых вузенькіх сьцежках, і наагул там глухая вёска. А гэтыя словы: «Ходзім мы . . .» нявінныя і лягерная ўлада іх лёгка прапускала праз сваю цэнзуру. А тымчасам гэтыя бедныя людзі хадзілі дзесяткі кілямэтраў, значыць, бліжэй ня было адчыненага касьцёлу.

Паводля нашых інфармацыяў, адчыненых касьцёлаў, у якіх адпраўляюцца рэгулярна набажэнства, ёсьць нязначная частка, можа пятая ці шостая. Рэшта пакасавана, зачынена, ці перададзена на сьвецкі ўжытак, або разбурана, або нішчыцца на вачах людзей. Паміж імі былі помнікі старадаўнай беларускай культуры, вельмі прыгожыя і цэнныя. Бязбожны ўрад зацірае сьляды веры і культуры: спадзяюцца, што народ забудзецца пра Бога і зраўняецца з жывёлай.

Калі у 1944 г. бальшавікі занялі Беларусь, спачатку гралі ролю апякуноў і дабрадзеяў: нават пазволілі некаторым сьвятаром, якія вырваліся ад немцаў, вярнуцца на парахвіі. Аднак пасьля, пад рознымі прэтэкстамі, пайшло сьледзтва, арышты духавенства і дэпартацыя ў Сібір. З усіх лістоў бачым, што пераважную часьць духавенства саслалі ў лягеры, даючы па 10 або па 25 гадоў, найчасьцей бяз ніякіх судоў. Толькі пасьля сьмерці Сталіна Маленкоў пачаў выпускаць інвалідаў: тады, праўда, і здаровыя сталі «дахадзягамі» — значыць, дайшлі да поўнага інвалідства. А старыя ўжо былі няздатнымі да ніякай працы.

Да чаго давёў-бы Сталін, каб яшчэ пажыў з дзесятак гадоў? . . .

Сьвятары, якія былі выпушчаны, праходзілі праз дзесяткі фармальнасьцяў, каб дастаць права выконваць абавязкі ў сьвятынях. Некаторых не хацелі нідзе мальдаваць і яны сталі прымусовымі валацугамі, якіх пераганялі з месца на месца. Іншых мальдавалі, але бяз права духоўнай практыкі. А шчасьлівыя сьвятары, што мелі права адпраўляць набажэнства, былі вельмі агранічаныя і месцам, і другімі пунктамі ці пагрозамі.

З усяго відаць, што савецкі прасьлед перавышае найгоршыя для каталікоў часы цароў Мікалая I, Аляксандра II і III.

*

Маемо пачку *лістоў* ад нашых знаёмых: лісты з рознага часу і з розных мясцоў, пераважна з Усходняй Беларусі. Вось піша адзін Сп. Н.:

«Быў у нас сьвятар Х., які адбыў лягер і прымусовыя работы каля сямі гадоў у на далёкай паўночы (толькі Вы ня друкуйце ягонага прозьвішча!). Ахрысьціў у нас 77 дзяцей блізкіх і далейшых. Але зараз мусеў выехаць у свой пункт, дзе ён замальдаваны. Іншым двом, вашым знаёмым НН, не ўдалося замальдавацца: адзін мусеў выехаць на Ўкраіну, дзе тымчасам можа працаваць у адчыненых касьцёлах. А наш сьвятар хрысьціць вельмі шмат і нічога не баіцца, хоць мы ўсе баімся за яго. Ён езьдзіць у суседнія гарады і там адпраўляе набажэнства. Расказываў нам: :Вось прыйшоў прадстаўнік сельсавету з пратэстам, але я яшчэ ахрысьціў грамадку і адразу выехаў. Найчасьцей прыязджаю толькі на адзін дзень. Здараюцца шлюбы, споведз, дзе прытрапіцца — ў дародзе, ў полі, ў маленькім пакойчыку. І езьдзіцца, як магчыма, вазом, цягнікам, а то й пехатою! У вёсцы Н за адзін раз ахрысьціў 97 дзяцей! Праўда, не раіў паведамляць і выклікаць далёкіх, бо гэта небасьпечна для іх і для мяне».

---

чайным у Каталіцкай Царкве і тое чым яна можа ўстаяцца, дык гэта яе стараветнасьць. Якія людзкія ўстановы так даўгавечныя, як гэтая Царква, ці якія так доўга захаваліся як яна? Рымская імпэрыя і іншыя валадарствы ўпалі; глыбокайдучыя перамены моцна ператрасьлі Эўропу; розныя навукі, філязафічныя сыстэмы і інш. сьледавалі зьнішчальна адны за другімі; нават супраць самое Царквы няраз уздымаліся гвалтоўныя навальніцы і няраз пагражалі Ёй зьнішчэньнем. — А яна пражыла ўсё гэта і да сёньня астаецца непарушнаю. Такая жыцьцёвасьць мусіць мець глыбейшы і мацнейшы грунт як камень і скалы».

(Далей будзе)

Л. Г.

З другіх лістоў, з даўнейшай Магілёўскай губэрніі: «Мы хадзілі да Н. Туды прыязджаў ксёндз. Вельмі быў спрацаваны! Выспавядаў мусіць больш як сто людзей! А тут надыходзілі з дзецьмі да хросту: мусеў перарываць споведзь, каб хрысьціць малых і большых і нават вялікіх (18 гадоў), бо тут даўно ня было сьвятароў. Людзі са сьлязьмі прасілі споведзі, але ўсе баяліся перашкоды і духоўная помач была недакончана. Ксёндз казаў: „Старое сэрца мусіць вытрымаць!" І ўжо другі раз духоўны айцец прыехаць ня будзе магчы . .

Піша адзін даўнейшы сусед: На Ўкраіне адчынілі некалькі новых пунктаў для набажэнства, а на Беларусі нічога!

Паводля нашых вестак, палажэньне рэлігіі на Беларусі далёка цяжэйшае, як у другіх краёх — у Латвіі, Літве, Украіне. Там абмежаваньні меншыя, а ў Беларусі бязбожнасьць проста шалее! Прасьлед падыходзіць да часоў Нэрона і Дыоклецыяна. Гэты апошні выдаваў эдыкты нішчыць царкоўныя кнігі, начыньне, сьвятыні і сьвятароў. І новыя сатрапы на Беларусі праводзяць тое самае, але пад шыльдам свабоды . . .

Новая вестка: зьмена прозьвішчаў — беларускіх на расейскія, бо гэта дае фаворы і палёгкі.

І новая кампанія — агітацыя супраць апошніх сьвятароў! Наязджаюць «карэспандэнты», якія выпісываюць розныя паклёпы і брэшуць бяз праўды і сэнсу. Аднак гэтага хапае, каб пацягнуць інваліда-сьвятара ў сьледзтва, і робіцца суд, каб загасіць апошнія агеньчыкі веры і малітвы.

У Беларусі няма ні біскупаў, ні духоўнай сэмінарыі. Апошнія каталіцкія сьвятары слабеюць і выміраюць. Урадавая бязбожнасьць бярэ верх . . .

Божа, зжалься над нашым Краем і Народам!

☆

З Заходняй Беларусі. Я спаткаў чалавека з пагранічных раёнаў Глыбокае, Браслаў, Мёры. Навіны самыя сьвежыя, але й самыя цяжкія. Прасьлед рэлігіі проста жахлівы.

Войстра забаронена вучыць сьв. веры дзяцей і моладзь, а таксама спавядаць іх. Са старымі можна толькі маліцца ў царкве, ды й то сьвятыні пакасаваныя.

У Шаркаўшчыне касьцёл — вялікі, прыгожы — развалілі. Ня так даўно быў пабудаваны з дрэва. Бязбожная ўлада склікала мясцовых людзей на разгром касьцёлу, аднак людзі не пайшлі, нават мясц. камуністыя адказаліся! Тады прывезьлі далейшых і трактарамі даканалі разборку. Як сьцягвалі крыж і скідалі, дык так ўбіўся ў зямлю, што ўсе дзівіліся!

На гэтым месцы ўладзілі каток, а летам танцульку.

У Мосары памёр стары сьвятар. І вось людзі шукалі новага. Прыехаў нейкі малады: усе ўсьцешыліся. Але ён пачаў з амбоны бязбожную прапаганду. Народ кінуўся ўцякаць з касьцёлу. Бязбожны ксёндз (мусіць падстаўлены атэіст?) быў змушаны выехаць.

Асталіся толькі старыя сьвятары, якія дажываюць веку. Набажэнства акуратна йдзе толькі ў Браславі і Мёрах: рэшта касьцёлаў нішчыцца гвалтоўна й бессаромна.

Палажэньне сьвятараў праваслаўных падобнае. Апрача іншых спосабаў дакукі й прасьледу, іх замучваюць яшчэ падаткамі ад царкоўных услугаў і ад будынкаў. Ня дзіва, што людзі самі «зачыняюць» цэрквы. Ясная справа, што бедныя людзі ня маюць сілы плаціць за арэнду сьвятыняў.

Пытаюся: «Якія былі ў вас адносіны эканамічныя?»

Адказ: — У нас, значыць, у нашым калгасе было значна лягчэй, як у другіх, бо наш калгас лічыўся «мільянэрам».

П.: — Што гэта значыць?

Адказ: — Мільянэрам у нас называлі калгас, які выплачваў ураду ўсе наклады і ня меў даўгоў. А другія наўкол проста ўтанулі ў даўгах перад урадам і ім няма ўжо ратунку! Нам і помач ішла большая і палёгкі ў машынах, збожжы і іншым.

П.: — А колькі зараблялі на працадзень?

Адказ: — Нам выплацілі сёлета па 30 кап. і па кіляграму збожжа. А ў другіх дык і палавіну таго . . .

П.: — Добра! А як-жа народ можа пражыць?

Адказ: — Мне асабіста жылося нязгорш, бо прысылалі дзеці дапамогу з Амэрыкі. А, кажаце, «народ»? Ну, свой участачак, або штосьці падробіцца збоку, або проста — украдзецца з калгасу! Бо трэба-ж неяк ратавацца . . .

П.: — Ці даюцца машыны для працы ў полі?

Адказ: — Так, трактары і часам камбайны.

П: — Але-ж мне ведама, што збожжа на Беларусі часта падпадае пад дажджы, дык як камбайны даюць раду?

Адказ: — Самае важнае, каб збожжа было зжата й змалочана. Камбайн не глядзіць, каб было лепш, але каб хутчэй: значыць, жнець і малоціць адразу. Мякіна выдзьмухіваецца на вецер, а зерне сушыцца пасьля. Ну, і выходзіць мука клейкая, а хлеб горкі і з закальцам. Шмат саломы марнуецца, а ўзяць яе нельга! Затое іржэўнік можна касіць, калі маеш на гэта права, ці дазвол. Яно служыць падпорай на зімовы корм. А сена купіць можна, калі хто мае лішняе, але толькі неафіцыяльна, у ночы . . .

Вось да чаго даводзіць камунізм!

**Л. В.**

# Навука і рэлігія

У Маскве выдаецца гэты часапіс. Тэма вельмі паважная і сучасная. Праз доўгія вякі навука тулілася пад апеку рэлігіі, асабліва Каталіцкай Царквы. Калі ня было друку, тады пераважна манахі перапісывалі кнігі — ня толькі царкоўныя, але і сьвецкія. Школы арганізаваліся пры сьвятынях: пачатковыя пры парахвіях, сярэднія пры дэканатах, а вышэйшыя пры біскупах. Таксама і манастыры, паводля сваіх сілаў, арганізавалі школы рознага тыпу, бібліятэкі, музэі і інш.

Часапіс «Навука і Рэлігія», стасоўна да сваёй назвы, павінен аб гэтым ведаць і пісаць і, сапраўды, мы бачым у кажным нумары, што аўтары артыкулаў ведаюць аб значэньні рэлігіі для навукі, толькі характэрызуюць факты тэндэнцыйна. Бяруць з жыцьця Царквы ўсё адмоўнае і гэтым хочуць давесьці «фальш» рэлігіі.

Пэўная справа, што ў кажнай рэлігіі знаходзяцца лянівыя, і баязьлівыя і грашалюбы... Што-ж? Хрыстос ведаў, з якіх людзей складаецца чалавецтва і не пасылае на сьвятароў анёлаў з неба, а загадаў браць кандыдатаў з грэшнага народу. І «каму больш дае, таго мацней будзе судзіць».

Мы ня можам гаварыць, што часапіс «Навука і Рэлігія» — усё фальшуе. Толькі сьцьвярджаем, што неразумна ставіць на від благіх сьвятароў, каб гэтым зьбіваць праўду рэлігіі. Хрыстос нявінаваты, калі вінаваты бывае сьвятар, біскуп, або Рымскі папа. Нават у прыродным парадку, калі бываюць дрэнныя лекарыдахтары, то не скажам: «Яны ўсе такія і мы зусім ня будзем лячыцця, а ўся мэдыцына — гэта фальш і ашуканства». Таксама, калі заваліцца новы мост, або дом, дык не гаворым: «Усіх інжынераў і архітэктаў трэба гнаць далоў!»

А часапіс «Навука і Рэлігія» толькі на гэтакай філязофіі ўсё будуе і так змагаецца з рэлігіяй.

## ДАЦЬ РОЎНЫЯ ШАНСЫ!

Часапіс «Навука і рэлігія», як паказвае назоў, мае дзьве роўныя тэмы — навуку і рэлігію: значыць, трэба абедзьвюм старонам даць роўныя шансы, спосаб дыспуту і абароны — адным словам, даць вольную волю! Калі-ж мы прыгледзімся да абставінаў і ўчытаемся ў журнал, дык бачым, што ў ім пакрыўджаны абодва бакі — і навука і рэлігія.

Нібы фаварызуюць навуку, але не даюць навуковага матар'ялу, навуковых доказаў і аргумэнтаў. Затое кажны нумар запоўнены фэльетонамі, расказамі аб грахох духавенства, жартамі, анэкдотамі, карыкатурамі на ўсё сьвятое. Вось ужо паўвеку бязбожнікі цьвярдзяць, што ня было Хрыста, што ён ёсьць «міф». А ці далі хоць адзін салідны довад гістарычны, што Хрыста «выдумалі» і што ён ня існаваў? Апрача насьмешак і таннай прапаганды, ніякага факту супраць Хрыста ня маюць. Адно толькі цьверджаньне ня будзе довадам. Такім спосабам нельга называць журналу «Навука».

Таксама і ў адносінах да рэлігіі: рэлігія мусіла-б бараніцца і мець магчымасьць даваць свае рацыі-довады, але ў Саветах рэлігія ЎКРЫЖАВАНАЯ. Праваслаўная Царква, хоць мае нейкую палёгку, ня можа выступіць у абароне рэлігіі. Каталіцкая Царква — яшчэ ў горшых абставінах. Значыць, змаганьне з бязбожнай прапагандай там падобна да таго, як Хрыстос маўчаў, калі Яго зьневажалі падчас мучэньня. Правакавалі: «Зыйдзі з крыжа, а мы Табе паверым!» Але Ён маўчаў і ня зыйшоў — не дзеля слабасьці перад сілай, але п р ы н ц ы п і я л ь н а: Хрыстос ня прымушаў іхнай вольнай волі.

Змаганьне з бязбожнасьцяй падобна да таго, як сільны, узброены жаўнер вызываў-бы на барадзьбу зьвязанага нявольніка. Значыць, нельга называць журналу «Навука і рэлігія», але «Тэрор і рэлігія».

## АДСТУПНІКІ

Блізка ў кажным нумары «Навука і рэлігія» дае прыклады адступнікаў. Гэта бязбожнікаў вельмі цешыць: яны з гэтага выводзяць, што рэлігія ёсьць фальшам, бо ад яе адступаюць самі сьвятары. Што-ж? перажыў гэта і сам Хрыстос. Самы першы і найгоршы адступнік быў Іуда Іскарыёт: ён нават цішком бунтаваў другіх апосталаў. Нам вельмі дзіўна, чаму Гасподзь меў вялікі посьпех (Уваход у Іерусалім) і вялікі заняпад (на Галгофе). Падобна і рэлігія: то перажыла 300 гадоў перасьледу — на пачатку, то мела трыумф, як хрысьціліся вялікія народы.

Цяпер, у пэрыяд камунізму, Царква зноў моцна занепадае, але гэта часова. Падчас Францускай рэвалюцыі здавалася, што наступіць поўны крах веры і Царквы, асабліва ў Францыі. І вось мы зноў там бачым адраджэньне рэлігіі.

Зусім ня дзіўна, што ў часе прасьледу людзі адпадаюць ад веры: гэта зьявішча зусім нярэдкае. Мне ў Расеі гаварылі, што бязбожнікі сумысна стараюцца прапхнуць сваіх атэістаў у духоўныя сэмінарыі, каб тыя пасьля разьбівалі Царкву. Калі так, то й пэўна будуць такія штучныя адступнікі. Але бываюць здраднікі і з стар-

шых веруючых людзей — з прычыны людзкой слабасьці, або з вырахаваньня, ці са страху перад судом.

Вось у нумары 7-ым паказаны такі сьвятарадступнік, летувіс Рагаўскас, які 13 гадоў «служыў Богу», а пасьля толькі-ж часу змагаўся з Богам. А быў-жа перш прафэсарам у духоўнай сэмінарыі!

Гэтага з поўнай пэўнасьцяй паказывае журнал, што ён чалавек «ідэйны», што ён перш быў набожным ксяндзом, а пасьля «перакканаўся» да атэізму. Толькі-ж будзіцца сумляваньне, калі Рагаўскас «праканаўся»? Як яму паводзілася ў часох да-савецкіх, дык ён тады ня мог пераканацца; а калі пайшоў прасьлед рэлігіі, тады толькі зьвярнуў да бязбожнікаў. І цікава, што Рагаўскас паказаны як гэрой, ледзь ня мучанік у атэізьме: яму пагражаюць, яму пасылаюць атруту і г. д. Скажыце: як то ў бязбожнай старанедзяржаве атступніку няма абароны?! Але-ж за яго стане ўся моц Савецкага Саюзу! Ці-ж якаясь «дэвотка» будзе мацнейшай? Рагаўскас — агітатар: ён урадовец, пісьменнік, выступае ў радыё...

Што Рагаўскас пачувае ў сваім сумленьні, мы не бяромся судзіць: судзіць будзе Бог і яго, і нас усіх, і аддасьць кажнаму справядліва. Людзі ўмеюць угаварыць ня толькі другіх, але і сябе. І Іуда «пераканаўся», што Хрыстос ня ёсьць Мэсыяш і прадаў Яго; а пасьля злы дух давёў яго да поўнай роспачы. Але хто сьведама не награшыў супраць Духа Сьвятога, той яшчэ можа пры Божай ласцы навярнуцца. Мы жадаем, каб Рагаўскас, калі пачуе «голас Божы», «не зацьвярджаў свайго сэрца»!

### «ІНКВІЗЫЦЫЯ» І ІНШ. ЗАКІДЫ.

Калі ставяцца закіды Каталіцкай Царкве, як справа інквізыцыі, а таксама нягодных папаў (Аляксандра VI і інш.), дык пэўна нам няпрыемна гэта слухаць. Мы самі мусімо саромецца такіх папаў і тых даўнейшых практыкаў. Таксама і таго, што Царква праз сваіх неразважных прадстаўнікоў супраціўлялася паступовым тэорыям навукі. Людзі мяшалі справы веры са справамі навукі і баяліся, што гэтыя пашкодзяць дагматам веры. Але тады вучоныя падзяліліся ў сваіх поглядах: што цьвярдзілі адны, тое другія зьбівалі, дык і ня дзіва, што прадстаўнікі Цэрквы папалі ў памылку. І трэба значны процант недаразуменьняў зложыць на адказнасьць тых часоў: тады сапраўдная навука толькі пробавала ставіць няпэўныя тэорыі.

Аж нарэшце мы жывём у часох ясных, вольных, калі Царква ня толькі не ставіць перашкодаў, а сама абвяшчае права шыбаць паднябёсы і «шукаць там Бога». І вось у гэтых прасьветляных часох атэісты крычаць, што Хрыста ня было — і гэта быццам на падставе навукі, а ня могуць даць ніякага навуковага довраду! І калі ў імя навукі бязбожнасьць рассылае тысячы агітатараў, друкуе масу кніжак, газэтаў, журналаў супраць веры ў Бога, дык Царква ня можа даць ні аднаго апостала з свайго боку, каб зьбіваць фальшывыя аргументы, ня можна друкаваць нічога контра, бо мае закнэбляваныя вусны. Так, Царква ў Савецкім Саюзе УКРЫЖАВАНАЯ!

*Лявон В.*

# Пастырскі ліст Герархіі Англіі і Валіі

Гэты вельмі важны для нас дакумант быў чытаны ў І-ую нядзелю Адвэнту 1. XII. 1963 г. ува ўсіх каталіцкіх касьцёлах. Ён датычыць тутэйшай эміграцыі. У лісьце пералічаюцца эмігранты Палякі, Італьянцы, Украінцы, Аўстрыякі, **Беларусы,** Харваты, Чэхі, Немцы, Мадзяры, Летувісы, Латышы, Славенцы, Гішпанцы, Мальтанцы і Югаславы. Ліст падпісалі ўсе Біскупы Англіі і Валіі.

Справа датычыць адносінаў між мясцовым народам і эмігрантамі. Пад прычынамі эміграцыі адзначаюцца матывы эканамічныя і палітычныя. Эміграцыя складаецца з каталікоў і інш.

Найперш — справа рэлігійнай абслугі каталікоў: кажная нацыя мае сваіх сьвятароў. Рымскі Апостальскі Пасад ад часоў Папы Сьв. Пія Х-га дужа клапаціўся аб эміграцыі, аб ейных духовых і дачасных патрэбах. А Папа Пій XII выдаў спэцыяльны дакумант, пад назовам «Сям'я на выгнаньні», які стаўся «Вялікай Картай» для эмігрантаў. У Рыме заложана Міжнародная Рада для апекі над эміграцыяй. У Раду ўваходзяць біскупы і прадстаўнікі ад усяго сьвету. Ад беларусаў — прадстаўнік Пралат П. Татарыновіч.

У Англіі ёсьць зарганізаваны Нацыянальны Камітэт для эміграцыі.

Біскупы дзякуюць тым людзям, якія дасюль памагалі эмігрантам і маюць надзею, што, не зважаючы на перашкоды, справа апекі над эмігрантамі будзе ляжаць на сэрцы людзей добрай волі. Сьвятары будуць даваць магчымасьць розным нацыям адпраўляць багаслужбы ў сваіх касьцёлах. І ўсе добрыя людзі будуць ветліва прыймаць і запрашаць эмігрантаў на свае зборкі і ў свой дом — як каталікоў, так і іншых, — памагаць ім уладзіць іхнае жыцьцё, каб чуліся тут, як у сябе дома. Эмігранты заклікаюцца цікавіцца жыцьцём краю, каб быць для яго карыснымі і патрэбнымі, уваходзіць у тутэйшыя арганізацыі і таварыствы і весьці жыцьцё прыкладнае і годнае пашаны. Няхай усе памятаюць словы Хрыста: «Багаслаўлёныя міласэрныя...» і «Я быў у дарозе, а вы прынялі Мяне». (Мат. 25, 35).

**Х.**

# З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

Англія:

## ЯЛІНКА Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА Ў ЛЁНДАНЕ.

Вучні школы сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане ладзілі ялінку ў нядзелю 15-га сьнежня.

Як і папярэднім разам, у гэтым годзе ялінка ўдалася вельмі добра. Акрамя дзяцей — галоўных гасьцей, — тут было шмат дарослых. Можна было бачыць бацькоў вучняў, кіраўнікоў беларускіх арганізацыяў, а таксама шматлікіх дабрачынцаў і прыяцеляў школы, якія прыехалі на гэтую ўрачыстасьць зблізку і здалёку.

Праграма была вельмі багатая: музыка, калядкі, вершы, «Батлейка», ну і Дзед Мароз, які прынёс гасьцінцы для ўсіх дзетак.

Аўтарам «Батлейкі» быў а. Язэп Гэрмановіч, які сам быў прысутны на вечары. Вось яе зьмест: да пастушкоў, якія ўночы сьцерагуць авечак, зьяўляецца анёл і абвяшчае ім, што сяньня нарадзіўся ім Хрыстос Збавіцель. Ён загадвае пастушком ісьці і



пакланіцца яму. У доказ праўдзівасьці сваіх словаў, ён разьвязвае язык аднаму нямому пастушку. Пастушкі радасна зьбіраюцца і выходзяць з песьняю:

Пойдзем, пойдзем у стаенку,
Будзем бачыць там Паненку,
Што Хрыста нам нарадзіла
І на сенцы палажыла.

Толькі адзін пастушок ніяк не можа сабрацца: ён усё забываецца то палку, то торбу і павінен вяртацца па іх.

Багатая праграма беларускіх калядак каштавала шмат высілку для кіраўніка хору, сп. Г. П. Вось назовы калядак: «Неба і зямля», «Саўка ды Грышка», «Новая радасьць сьвету ся явіла», «Нарадзіўся», «А ў сьвеце нам», «Дзіўная навіна», «Сьвецяць зорачкі», «Ой на моры», «Я хадзіла ў мысьлях», «Новая радасьць стала».

Усе госьці зьвярнулі ўвагу на прыгожую дэкарацыю сцэны і на ёлку прыбраную амаль выключна цацкамі зробленымі самымі хлопцамі.

Хоць усе хлопцы ігралі вельмі добра, але асабліва трэба тут успомніць Міхася Гасьцеева ў ролі



старога пастуха і Алеся Міхалюка ў ролі анёла. Ня можна таксама прамінуць Эдуарда Уолше і Пятруся Каўбасу, якія на дудцы і на бубне адыгралі «Саўка ды Грышка».

Пасьля пастаноўкі, у часе скромнага прыняцьця, зноў пачаліся сьпевы пры ёлцы з запаленымі сьвечкамі. Усе так весела гулялі, што ўканцы не абышлося і без сьлёзаў, калі некаторым маладым гасьцям прышлося зьбірацца дадому...

## ДАСТОЙНЫЯ ГОСЬЦІ Ў ШКОЛЕ СЬВ. КІРЫЛА.

У пятніцу 20-га сьнежня вучні Школы сьв. Кірыла мелі гонар гасьціць у сябе дастойных гасьцей у асобах Уладыкі Часлава Сіповіча, які нечакана прыехаў у Лёндан, і Сакратара Апостальскай Дэлегацыі ў Лёндане, Даст. Манс. Б. Торпільяні. У іхны гонар яны паўтарылі праграму ялінкі зь мінулай нядзелі.

Ад імя вучняў вітаў дастойных гасьцей Ф. Сенькоўскі, прэфэкт школы. У сваёй кароткай прамове ён, між іншым, сказаў: «Сяньня ўвесь сьвет рыхтуецца да сьвята Каляд. Беларускі народ, нажаль, ня мае магчымасьці разам з іншымі народамі славіць свабодна Новanaроджанага Збавіцеля. Хай-жа Ён прыме хвалу з вуснай горсткі беларускіх дзяцей на чужыне».

Пасьля заканчэньня госьці, бачна ўзрушаныя, шчыра дзякавалі маладым артыстам за так прыгожы вечар. Не абышлося і без падаркаў, якія кожны вучань атрымаў ад Монс. Торпільяні.

Гэты вечар, які доўга астанецца ў памяці вучняў, быў годным заканчэньнем першай чверці навучальнага году. На наступны дзень раніцай усе вучні раз'ехаліся на Калядныя канікулы.

## УЛАДЫКА ЧАСЛАЎ У ЛЁНДАНЕ.

Адарваўшыся ад сваіх шматлікіх заняткаў у Рыме, Яго Дастойнасьць Япіскап Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў Каталікоў, прыбыў 17-га сьнежня ў Лёндан, каб там правесьці Калядныя сьвяты.

Калядныя сьвяты і Богаяўленьне Уладыка правёў у Лёндане, дзе служыў Архіерэйскія Літургіі ў саслужэньні з сьвятарамі Беларускай Каталіцкай Місіі ў царкве сьв. Пятра і Паўла ў Мар'ян Гаўз.

У нядзелю 19-га студзеня, з нагоды васьмідзённых малітваў за Хрысьціянскую Еднасьць, Ула-

дыка зноў служыў Архіерэйскую Літургію ў саслужэньні з а.а. Л. Гарошкам і Я. Гэрмановічам. Прыгожа сьпяваў хор Школы сьв. Кірыла.

Гэта была апошняя публічная Літургія Ўладыкі Часлава ў Лёндане. У панядзелак 20-га студзеня ён быў на прыняцьці,ladжаным Ангельскімі япіскапамі ў гонар новага Апостальскага Дэлегата, Архіяпіскапа Кардынале, а 22-га выехаў у Рым.

Уладыка Часлаў, які зьўляецца генэральным ігуменам Ордэну Айцоў Мар'янаў, адведаў усе манастыры гэтага ордэну ў Англіі. У Гэрэфорд ён служыў Архіерэйскую Літургію ў саслужэньні з а. Я. Гэрмановічам. Гэтая Багаслужба знайшла шырокі водгук у мясцовай ангельскай прэсе.

### ВАСЬМІДЗЁННЫЯ МАЛІТВЫ ЗА ЕДНАСЬЦЬ.

З нагоды васьмідзённых малітваў за Хрысьціянскую еднасьць, сьвятары Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі былі запрошаныя служыць сьвятыя Літургіі ў розных цэрквах у Лёндане.

Айцец Леў Гарошка, рэктар Місіі, служыў сьвятую Літургію ў суботу 18-га студзеня ў вялікім жаночым манастыры ў цэнтры Лёндану (Рэджэнтс Парк), пры якім існуе таксама школа для дзяўчат.

Айцец А. Надсон служыў сьв. Літургію ў нядзелю 20-га студзеня ў царкве а. Езуітаў на Фарм Стрыт. Гэтая Літургія была заканчэньнем мітынгу, які быў зарганізаваны з нагоды васьмідзённых малітваў на Трафальгар сквэр. Шматлікія ўдзельнікі мітынгу розных веравызнаньняў былі прысутныя на Літургіі.

У Сераду 22-га студзеня а. А. Надсон служыў сьв. Літургію для студэнтаў Лёнданскага Унівэрсытэту ў царкве сьв. Патрыка. Прыгожа сьпяваў хор таварыства сьв. Яна Залатавуснага.

### КАЛЯДНІ ВЕЧАР У ЛЁНДАНЕ.

Беларуская калёнія ў Лёндане ладзіла супольны калядні вечар у сыботу 12-га студзеня ў Беларускім Доме.

Пасьля адсьпяваньня Калядняга трапара і прывітальнага слова Старшыні ЗБВБ, сп. Ул. Бутрымовіча, усе госьці заселі за багата застаўлены стол, з смакам прыгатаваны лёнданскімі беларускамі. Айцец Надсон у сваёй кароткай прамове гаварыў аб праўдзівым і хвальшывым міры. Ён сказаў, што толькі мір, які прынёс Хрыстос людзям у часе свайго прыйсьця на сьвет, можа забясьпечыць сапраўднае шчасьце ці то адзінак, ці грамадзтва. Пасьля прамаўляў таксама сп. А. Здановіч.

Пры сяброўскай чарцы і закусцы гутарка ажывілася, а ад гутаркі хутка перайшлі да сьпеву. Гукі калядак і іншых беларускіх песьняў доўга раздаваліся ў сьценах Беларускага Дому. Не абыйшлося і без Дзеда Мароза, які раздаў падарункі дзецям.

Вечар быў вельмі ўдалы і кожны разьвітваўся з надзеяй, што ў наступным годзе можна будзе зноў спаткацца ў ня меньш прыемнай атмасфэры.

### НОВЫЯ ПОШУКІ Ў ГАЛІНЕ БЕЛАРУСКАЙ ЦАРКОЎНАЙ МУЗЫКІ.

У гэтым нумары «Божым шляхам» замешчана першая частка артыкулу аб беларускай царкоўнай музыцы. Ён напісаны здольным маладым ангельскім музыкалёгам, які пакуль-што хоча быць ведамым пад псэўдонімам Г. Піхура.

Сп. Г. Піхура, які зьяўляецца абсальвэнтам Оксфардзкага Унівэрсытэту і Сарбоны, сам прызнаўся, што пачынаў свае пошукі ў галіне беларускай царкоўнай музыкі з немалой доляй скептыцызму. Аднак ягонае зацікаўленьне і захапленьне расло разам з поступам ягоных пошукаў. Сяньня сп. Піхура цьвердзіць з пэўнасьцяй, што старая беларуская царкоўная музыка мае скарбы, якія не ўступаюць найлепшым узорам маскоўскай ці ўкраінскай музыкі. Ён уважае, што ўся ўсходняславянская царкоўная галіна шмат траціць, таму, што досьледы над беларускай музыкай да гэтага часу былі так занядбаныя.

Як першы вынік сваіх арыгінальных дасьледваньняў, сп. Піхура рыхтуе цяпер зборнік беларускіх літургічных напеваў. Першая частка будзе складацца з музыкі для Літургіі сьв. Яна Залатавуснага і мае быць зданая ў друк перад Вялікаднем г. г.

Францыя.

### АЙЦЕЦ ГАРОШКА Ў ПАРЫЖЫ.

Так здарылася, што ў Францыі няма цяпер ніводнага беларускага сьвятара. Дзеля гэтага прыезд сьвятара з іншай краіны зьяўляецца заўсёды вялікай падзеяй для мясцовай беларускай Калёніі.

У гэтым годзе а. Леў Гарошка з Лёндану правёў Калядні час у Парыжы. Ён служыў св. Літургіі для беларусаў у капліцы пры царкве Нотр Дам дэ Шамп у нядзелю 22-га сьнежня і 5-га студзеня. У гэтую апошнюю, пасьля Службы Божай, адбыўся супольны сьвяточны абед для ўсёй беларускай калёніі з Парыжа, спалучаны з агульным зьездам беларускай сэкцыі Сындыкату Хрысьціянскіх Работнікаў.

Нямеччына.

### УЛАДЫКА ЧАСЛАЎ У МЮНХЭНЕ.

Па дарозе з Рыму ў Лёндан, Дастойны Ўладыка Часлаў Сіповіч заехаў у Мюнхэн.

У сыботу 14-га сьнежня Уладыка, у саслужэньні з Даст. Пратаерэям У. Салаўём і адным латыскім сьвятаром, адслужыў урачыстую сьв. Літургію для мясцовай беларускай калёніі, а таксама жалобную Службу Божую па загінуўшых беларускіх героях, бо ў гэты дзень Беларусы ў Мюнхэне сьвяткавалі ўгодкі Слуцкага паўстаньня.

### З БЕЛАРУСКАЙ ПРЭСЫ:

**СЯЎБІТ. 1964, № 36. Студзень-Люты. Часапіс Каталіцка-Грамадзкі. Нью Ёрк.**

Цэлы нумар заняты біблійнай паэзіяй «СЕМ ПАКУТНЫХ ПСАЛЬМАЎ». Найперш дадзена ўступное слова аб пакуце; пасьля вершаваныя псальмы — 6, 31, 37, 50, 101, 129 і 142. Далей ідзе Літанія да Ўсіх Сьвятых (Паводле кніжкі «Голас Душы). Далей — псальм 69 і пакутныя малітвы. Усе псальмы пераклажыў а. Язэп Гэрмановіч. Мэта аўтара пададзена ў уступным слове: «Сем Псальмаў Пакутных», калі мы будземо чытаць іх ці пяяць у малітве, вельмі нам памогуць адчуць грахі і паварнуцца да праўдзівай пакуты». Калі-б хто падаў крытыку гэтага перакладу, ахвотна зьмесьцім у «Б. Шляхам».

# З рэлігійнага жыцьця на сьвеце

**Польшча.** Урад прымусова выклікае з духоўных сэмінарыяў і з кляштараў клерыкаў у войска на два гады, перапыняючы ім студыі. Там стараюцца выхаваць іх у атэістычным духу, а выпускаючы робяць усякія стараньні, каб адарваць ад Божай службы і ад веры ў Бога.

Да гэтага часу прапаганда не дае вынікаў: клерыкі пасьля вайсковай службы зноў вяртаюцца ў сэмінарыі і кляштары. Выняткі бываюць вельмі рэдкія. Цяпер камуністыя спалохаліся, што клерыкі вядуць у войску рэліг. прапаганду.

**Кашмір.** Гэты край ляжыць на поўначы паміж Індыяй і Пакістанам: абедзьве дзяржавы хочуць перацягнуць Кашмір да сябе. У вялікіх спрэчках у Кашміры згінуў з сьвятыні в о л а с Магамэта; волас быццам нехта ўкраў. Справа пагражала бунтам і вайной паміж Індыяй і Пакістанам. Пасьля неяк той волас знайшоўся: была радасьць. Аднак паўстаў сумлеў, ці волас праўдзівы? Дык зноў — непаразуменьне і закалот.

**Францыя.** Ведамы а. Дюваль, манах-езуіт, ад 1957 г. выступае з гітарай на сцэнах тэатраў, сьпяваючы рэлігійныя і нават сьвецкія песьні. Ягоны мягкі, прыемны бас чаруе слухачоў, а грамафонныя пліткі расходзяцца па цэлым сьвеце. Дюваль пранікае ў атэістычныя асяродкі і вядзе рэлігійную прапаганду сваёй песьняй.

Прыклад Дюваля пацягнуў іншых. Манахіня Люц. Габріель, дамініканка з Бэльгіі, таксама зрабіла «кар'еру» на сцэне з гітарай. Ейныя пліткі пайшлі ў сьвет вельмі бойка. За адну толькі песьню аб Сьв. Дамініку яна зарабіла 100,000 ф. ст. Але кажа, што маемасьць усяго сьвету ня мае для яе ніякага значэньня. Усе ейныя прыбыткі ідуць на патрэбы закону і на місіі.

## ВЫБРАНЫЯ ДУМКІ СЬВЯТЫХ

**Сьв. Антоні Вялікі:** Бойцеся адыходу ад веры, як пачатку ўсяго злога. Моцны фундамант усіх сьвятых — вера.

Зграшыць у жыцьці — у справах — гэта слабасьць; дапускаць недаверства — гэта знак дзёрскай лёгкадумнасьці і неразвагі.

Боязь Госпадня і памяць аб сьмерці няхай заўсягды будуць перад нашымі вачыма.

Гэтае кароткае жыцьцё правядзём так, каб прабываць у Богу, які запытаецца ў нас адказнасьці ў дзень судны.

Як густы лес, калі яго ня сьцерагуць, нішчыцца пажарам, так крывадушнасьць, будучы дапушчана да сэрца, губіць душу і прытым паганіць і цела.

Хто жыве з чалавекам сварлівым, той жыве з дзікім зьверам.

Пануй над сваім языком і не памнажай слоў, каб ня множыць сваіх грахоў.

Не гавары з гневам. Хай твае словы як і тваё маўчаньне будуць поўныя развагі і мудрасьці.

Хто любіць пустаслоўе і шматслоўе, той нязгодльны да ніякай добрай справы.

Таму, хто ня ўважае на твае слова, не гавары да яго.

**Індыя: Эўхарыстычны Кангрэс.** У гэтым годзе на пачатку сьнежня адбудзецца рэдкая ўрачыстасьць сусьветнага характару — Эўхарыстычны Кангрэс — Зьезд каталіцкіх пілігрымаў з усяго сьвету. Мэта: аддаць у публічных набажэнствах, у разважаньнях і генэральнай працэсіі, з пакутай за грахі, хвалу Госпаду Ісусу ў Сьвятых Тайнах. Ёсьць надзея, што на Кангрэс прыбудзе Рымскі Папа Павал VI, які ўжо атрымаў запросіны прэзыдэнта Індыі.

Індыя — вялізны край з шматлікім народам. Рэлігія там пануе буддыйская, магамэтанская і індуізм. Існуе маса розных сэктаў. Каталіцкая Царква вядзе там з посьпехам сваё апостальства і налічвае каля пяці мільёнаў вернікаў. Ёсьць ужо значны працэнт гіндусаў сьвятароў і біскупаў, і адзін кардынал, Грацыяс, які й заклікае ўвесь сьвет прыбыць на Кангрэс.

## ТЫДЗЕНЬ СТУДЫЯЎ У ЧЫКАГО

У днях ад 28 лістапада да 1-га сьнежня 1963 адбыўся ў Беларускім Культурна-Рэлігійным Асяродку ў Чыкаго ТЫДЗЕНЬ СТУДЫЯЎ, ужо трэйці па чарзе.

Тыдні Студыяў у Чыкаго адбываюцца што два гады і маюць за сваю мэту разважыць на зьезьдзе беларускага актыву, творчай інтэлігенцыі, вывучыць за 2 гады дасьледчыя матар'ялы, якія адносяцца да беларускай мовы, культуры, сьведамасьці, рэлігіі, гаспадарскага становішча Беларусі, — спосабы і насіленьне бальшавіцкага наступу, нацыянальныя страты, супрацію народу, дзейнасьць белар. эміграцыі і інш.

Сёлетні тыдзень Студыяў адбыўся ў неспрыяльных умовах, у першых днях амэрыканскай жалобы, выкліканай забойствам Прэзыдэнта Джона Кенэдзі. Дзеля гэтага сумнага здарэньня многія нашыя вучоныя, якія працуюць у дасьледчых установах, ня мелі змогі ўдзельнічаць у Тыдні Студыяў

## З БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ МУДРАСЬЦІ

Які розум, такая й гаворка.
Які салавей, такая яго й песьня.
Як мы да Бога, так і Бог да нас.
Як ні хадзі, сьмерці не абмінеш.
Як няма ахвоты, то няма й работы.
Які ў ядзе, такі ў хадзе.
Якое ёсьць мейсца — ня зрушайся;
на адным мейсцы і камень абрастае.

Як пасееш, так і пажнеш.
Як пасьцелеш, так і высьпішся.
Як працуеш, так і маеш.
Як Серка кормяць, так Серка й брэша.
Як стане ліха, ня ўседзіш ціха.
Як ты к людзям, так і людзі к табе.
Як ты чорта мёдам ня маж,
а ён усё дзёгцем сьмярдзіць.

# Вершы і байкі

## СІРАТА

Браты, хто з вас быў сіратою?
Хто быў так прыгнечан, забыты,
Як я, у куточак забіты?
Хто жыў з бядой-маткай ліхою?

Блукаўся бяз мамы і таты?..
А хатай чужы быў куточак,
Адзежай — благі ласкуточак?
Скажыце вы, людзі багаты!

Ах, мама! Ах, мамачка міла!
Ты лепша была, прыгажейша,
Ад матак усіх даражэйша:
Узяла цябе страшна магіла.

А быў я слабенька дзіцятка —
Такі яшчэ хлопчык маленькі.
І вось адыйшлі даражэнькі,
Абое — і мамка і татка.

І зараз прыйшлі нейкі людзі,
Забралі і тату і маму,
Схавалі ў глыбокую яму,
Зямлю ім звалілі на грудзі.

І нешта там мне гаманілі,
Гукалі і моцна пяялі,
І плакаць мне там не давалі,
І лепшую долю сулілі.

Вось я сіратою астаўся:
Адзін — як той колас у полі,
Адзін — для гаротнае долі,
Адзін — сам з бядою спазнаўся.

Я відзеў ... шчасьлівыя дзеці,
Што туляцца, песьцяць да маткі,
Як тыя маленькі курчаткі.
Ня мог я праз сьлёзы глядзеці.

Падрос я, ўцягнуўся на службу.
Спаткаўся я там з пастухамі,
Хацеў з імі жыць як з братамі,
Заходзіў у цесную дружбу.

А тыя для зьдзеку, для сьмеху
Няраз мяне крыўдзілі білі,
І добра мне там насалілі —
І зла навучылі і грэху.

І стаў я блудзіці страшэнна,
Як дрэўца, пасаджана крыва,
Расьце так на сьмех і на дзіва,
Так я гаварыў, рабіў дрэнна.

Пустую ману стаў лавіці:
Мне марнага шчасьця жадалась,
Аднак у руках яно рвалась,
Як тыя паўцінавы ніці...

Я стаў ад людзей уцякаці, —
Любіў ціш і глуш, адзіноту,
Забаву сваю і работу,
І з птушкамі ў лесе пяяці.

Прырода мяне захапіла:
Я з пчолкай да кветкі гукаю,
Ці з птушкай па лесе лятаю
І радасьцяй сэрданька біла.

Над берагам рэчкі часамі,
Як зайчык ў траве утаюся,
Да рыбкі гукаю, дражнюся —
Аж часам засну між кустамі.

Вядзе мяне нехта да раю:
Там птушкі, там рыбкі мне сьняцца,
Я там навучыўся сьмяяцца —
З анёлкамі ў жмуркі гуляю.

Ня крыўджу на сьвеце нікога,
Я дрэўца, я кветку жалею,
Гнязда я закрануць ня сьмею.
З прыродай малюся да Бога.

Красуецца сьвет так прыгожа:
Мільёны тых зорак у ночы,
Гляджу — разьбягаюцца вочы —
Ты — добры, найлепшы, мой Божа!

На сьвеце ня маю нікога.
Запален нябеснаю іскрай,
Як сокал маланкаю быстрай,
Мой дух стаў імкнуцца да Бога.

А Бог даў мне голас на дзіва,
Каб мог я гукнуць на сьвет цэлы,
На сьвет, што зблудзіў недасьпелы:
«Гэй, людзі, што ходзіце крыва!»

«Браточкі, вы — кроў мая родна:
Вы праўды, дабра вы шукайце,
Руку сіраціне падайце —
Паўстане так доля народна».

У нашых, у сэрцах пакутных
Ёсьць сіла гартоўнае сталі.
Ах, цяжка мы ўжо гаравалі —
Ёсьць сіла у плечах магутных.

Вялікая сіла у згодзе...
Зямля, хоць і шэрая, родзіць
І ўсе нам труды нагародзіць —
Ёсьць сіла у нашым народзе.

Дык вось пачну клікаць да згоды,
Да міру у працы і ў хаце,
Бо згода — найбольша багацьце,
Бо згодай стаяць ўсе народы.

1932.

## БАБРЫ

Бабры раз грэблю будавалі:
Зубамі, лапамі, як зналі,
Злажылі плот і хату самі
І ўсё прыпляскалі хвастамі.

Як у людзей, бабёр «дзяяч»
Балтаўся ўсюды як таўкач:
Пад рукі ўлазіў, замінаў:
Задзёршы нос баброў ганяў,
Усеньку працу іхну брыдзіў
І ад апошніх слоў іх стыдзіў,
Але ніхто, нідзе, ніразу
Ня слухаў тут яго заказу.

Бабры сказалі: «Тут — ня штуба:
Супольна хата як ня люба,
Браток, ў балота лепш ідзі —
Хлявок сабе там згарадзі!»

Бывае так і беларус:
Улезе з локцямі ў хаўрус,
Хоць плач! Зь ім гора: усюды ён
Тырчыць як той ражон.

## ПЕВЕНЬ

Наш певень аб курэй ня дбае:
А дзе зярнё прыдбае,
Дык, хоць чубатку кліча,
Здалёку крокі ліча,
Каб покуль курка даляціць,
Зярнё самому змалаціць.

А як прыскочуць дзьве,
Адной, другой па галаве!

Сам еў за двух —
Аж спух.
І гэтак замарыўся,
Што і пяяць забыўся. —

Ну, куры распаўзьліся,
А ён «пяяў» у місе.

*

Я відзеў: нашы малайцы —
Артысты — сьвет дзівілі. —
З Парнасу зьлезьлі: як шаўцы
Сівуху смагла пілі . . .

## «ТРЭЦІ» КАРЫСТАЕ . . .

У яблык ўлез чарвяк.
Маленькі, небарак,
Ён еў і рос, і рос і еў:
Зрабіў у хаце хлеў,
Усе куточкі запаганіў,
І хлеб свой і кватэру ганіў . . .

Як смоўж зьмяіным крокам
Пачаў вылазіць бокам.

І яблыку ўжо стала досыць,
Бо да пары збан ваду носіць:
На ветры яблык паківаўся
І ўзяў і адарваўся. —

Як гракнуў — бах! — на двое
развалiўся,

Прытым чарвяк на смерць забіўся.
Варона тут кульком,
Скуль быўшы, наляцела
І яблык з чарвяком
Падзюбала і зьела.

**В. А.**

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ.

Беларуская школа-інтарнат імя сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане ўжо прымае ўступныя заявы ад кандыдатаў на новы 1964—65 школьны год.

Кандыдаты павінны быць хлапцамі беларускага паходжаньня (г. зн. прынамся адзін з іхных бацькоў павінен быць Беларусам) у веку ад 8 да 11 гадоў. Старэйшыя хлопцы будуць прыймацца толькі ў выняткавых выпадках.

Лік вольных месцаў у школе вельмі абмежаваны. Заявы будуць рзглядацца ў парадку атрыманьня. Дзеля гэтага бацькі, якія-б жадалі паслаць сваіх сыноў у Школу сьв. Кірыла Тураўскага ў наступным школьным годзе, павінны ў сваім собскім інтарэсе зьвярнуцца ў гэтай справе як найхутчэй да кіраўніцтва школы.

Ува ўсіх справах, зьвязаных з школаю, трэба зьвяртацца да айца Кіраўніка, які будзе заўсёды рады даць неабходныя інфармацыі і выслаць праспэкт школы тым, якія гэтага жадаюць.

Пісаць трэба на адрас:

The Rev. Headmaster,
St. Cyril's House,
41, Holden Road,
**London,** N. 12.

Лёндан, 15-га студзеня 1964 году.

*

**Увага:** Рэдакцыя просіць прабачэньня, што 1-шы нумар (82) крыху спозьнены і высылаецца звычайнай почтай. Дзеля таго, што ня маем пэўных адрасоў нашых Прыяцеляў і Суродзічаў, вельмі Вас просім памагчы нам здабыць такія адрасы! Тады будзем перасылаць кожнаму асобна. А нумары 1-шы і 2-гі (82, 83) просім ласкава разаслаць або раздаць як пробныя. Можна толькі абмінуць такія адрасы, дзе не жадаюць мець наш Часапіс.

Выбачце за прыкрасьці і авансам дужа дзякуем за супрацоўніцтва. Нам здаецца, што гэтая ўслуга грамадзкая. Калі-б хто жадаў прыслаць якія заўвагі ці пытаньні, ахвотна будзем служыць помачай і радай. Калі-б хто прыслаў карэспандэнцыю ці артыкул, пастараемся надрукаваць. Крытыку таксама прыймем да сэрца і дапасуемся да вымогаў, паводля рацыі.

Будзьце добрыя паведаміць аб усіх нашых імкненьнях Дарагіх Суродзічаў!

Дзякуем!
**Рэдакцыя «Божым Шляхам».**

# *Пісьма ў Радакцыю:*

З МАКАО (КІТАЙ) ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ:

Ад ліпеня была ў нас страшэнная засуха і не хапала вады нават для піцьця. Ваду выдзялялі як лякарства. Мы неяк вымалілі ў Божага Міласэрдзя дождж і адразу ўсё прыйшло да нормы. Затое ў Гонг-Конгу засуха трывае далей, а там амаль 4 мільёны людзей! Выдзяляюць там кажныя 5 дзён па 4 галёны вады на сям'ю. З гэтае прычыны кажную сыботу прыязджае стуль у Макао каля 6-ці тысяч турыстых, каб тут пакупацца і вымыць бялізну.

У трапікальным краі без вады — гэта бязьмерная цяжкасьць і небасьпека; а тэмпэратура была да 46-ці градусаў у цяньку.

Уцекачы з Кітаю ўсьцяж прыбываюць. Каталіцкія школы тут перапоўненыя. У нашай школе (Сьв. Габрыеля), маем больш тысячы і было-б больш, каб пашырыць месца. Каб задаволіць людзей у такой патрэбе, нашыя сёстры наладзілі вячорныя курсы ад гадз. 7-ай да 9-ай. І наш Божы Вучыцель не пакідае нас без нагароды, бо ўжо ў кажнае важнейшае сьвята групы дзяўчатак прыходзяць да сьвятога хросту. У апошняй групе было іх 32 рознага ўзросту. У навіцыяце маемо 11 навіцыянтак, 4 пастулянткі і 5 асьпірантак. Лік, праўда, ня высокі, але і за гэта дзякуем Богу, бо прызваньні тут даволі цяжкія.

**Сястра Марыя А.**

Макао, 27 лістапада 1963.

Б р а з ы л і я.

Пякуся на бразылійскім сонцы: 44° С. у цяньку, а лета толькі пачалося. Шмат часу ня йшоў дождж — ўсё пасохла. Не стае вады ў цэлым Ріо, а ў нашых гарах вялікая бяда, бо карыстаемся толькі дажджавой вадой. Усяго таго шчасьця, што ня трэба думаць аб вугалі, аб дровах і аб цёплай вопратцы. Грэюцца і выпякаюцца нашыя старыя косьці. Словам, як у раі, толькі з ядой усё горш і горш! Хлеб абрыдзеў зусім: нясмачны, некарысны і нястраўны, бо урадова дадаецца 20% кукурузы і 20% маніокі (горкая і расьце самасеем на горах). Апрача таго яшчэ пекары дамешваюць ад сябе нештанейкае. Ведама, кантролі ніякай няма! Ужо з год як не хапае масла, сыру, а малако прывозяць у горад толькі на паказ, ды і то фальшаванае. Цукар зьяўляецца пакрысе, але яго багацеі зараз выкупліваюць і тады зноў доўта ня бывае. Цэны растуць непамерна і скачуць часам на 100%. Чаму так? Пакуль Бразылія трымала манаполь кавы на цэлы сьвет, датуль была багатая. Цяпер ²/₃ часткі даюць на сусьветныя рынкі канкурэнты з другіх краёў. Значыць, Бразылія пайшла ўніз.

Край патрабуе скорай рэформы — аграрнай, банкавай, падаткавай і інш. Але багачы гэтага не дапускаюць: іхныя ўсе банкі, фабрыкі і землі. Дэпутаты, як ня могуць падзяліцца, страляюць у сэнаце адны другіх. Дбаюць аб сабе, аб урадоўцах і аб войску — іншыя людзі могуць галадаць. Забастоўкі яшчэ горш псуюць эканомію і з гэтага карыстаюць цёмныя сілы. Дэфіцыт бюджэту пакрываецца друкаваньнем грошаў. Нармальны курс круцэйро быў 24 на 1 даляр, а цяпер дайшло да 1200 за даляр.

Бяз помачы Злучаных Штатаў Паўн. Амэрыкі Бразылія ня можа вытрымаць. Аднак Вашынгтон дае цяпер дапамогу толькі 3-4 губэрнатарам з 21-го, якія гэтай дапамогі не раскрадаюць. Пасол Злуч. Штатаў моцна пільнуе, каб пазычаныя сродкі не марнаваліся.

Бразылія — край каталіцкі, але ўрадам кіруюць масоны і няма ніякай справядлівасьці. Багачы трымаюць усё багацьце для сябе, капіталы высылаюць у замежныя банкі і самі падрыхтаваныя ўцякаць, калі будзе пагроза рэвалюцыі.

✳

У Бразылію я прыехаў хворым. Трэба было штосьці рабіць, але ня ведаў мовы (партугальскай) і ня меў лякарстваў. На шчасьце тады ўсё было вельмі танна, але я недаядаў, а часамі і зусім галадаў. Спадзяваўся дапамогі ад родных, але тыя хварэлі нэрвова — «манія прасьледу» — і самі не даваліся лячыць. Спачатку працаваў пры гаспадарцы (фазэддзе) і крыху плацілі, а пасьля, як убачылі, што я інвалід, дык мусіў працаваць дарма, абы жыць. Цяпер жыву ў нанятай старой фанзе: сьцены з зямлі, хатка крытая старой чарэпай, без вокан, а толькі дзюркі ў сьценах. Напрацаваўся я, пакуль крыху давёў сваю хібарку да парадку. Цяпер яна проста цудоўная! Як няма дажджу, дык і не цячэ. Тут самая бедната: нэгры, мулаты, бразылійцы і... я! Мяне палохалі, што можа быць са мною дрэнна, але нічога: яны мяне не чапаюць і я іх таксама. І вуліцы няма — толькі сьцежка. Ваду зьбіраю ў спэцыяльную яму з цэмэнту, — ведама, як ідзе дождж. Відаць мора, але дайсьці туды ногі мае ўжо слаба топаюць. Купляю што найтанейшае. Але жыву не адзін, бо са мною — Божанька. Сумна, што задалёка да касьцёлу.

Думаю, што Вам лепш было-б у Бразыліі, дзе сонца смаліць аж занадта, лепш як у Вашай туманнай Англіі.

Хай Бог сьцеражэ вас!

Ваш Віктар Небядовіч

1. XII. 1963.

**З САВ. ПРЭСЫ:**

**ЧАСАПІС БЕЛАРУСЬ, № 12. 1963 г.**

Нумар вонкава вельмі прыгожы: шмат малюнкаў, якія даюць цікавыя абразкі з нашае краіны, вышыўкі, настольныя дарожкі і інш. Таксама і весткі для эміграцыі важныя, толькі-ж... мала праўдападобныя. Як ужо яны здаўна прызвычаіліся, там ўсіх хваляць: сав. ўрад — «ідэальны», ані ценю якой заганы! Працэнты растуць, жыцьцё — райскае, а каб дагнаць Амэрыку, збожжа трэба купляць у Аўстраліі і ў той самай Амэрыцы! —

І вось у гэтым нумары часапісу бачым ганебны наступ расейшчыны: на бачыне 6 «Доставка хозтоваров надом». У сярэдзіне, на галоўнай карце ілюстрацыяў, бачым Кінотэатр **«Радзіма»**, а на самым будынку парасейску **«Родина»**. Наагул, на здымках высьцерагаюцца даваць надпісы, бо праўда паказала-б сама сябе, як «старшы брат» выяўляе сваю ўладу.

